
Дзень роднай мовы →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Холад пустога кабінета →8


http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl



№ 09 (2964) Год LVIII | Беласток, 3 сакавіка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Развітанне з Сакратам Яновічам, Крынкі 21 лютага

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

Было нешта літаратурна-яновічавае ў гэтай карціне. Калі мы з дамавінай Сакрата Яновіча ішлі праз заснежанае, соннае мястэчка, мясцовых уразіў лес бел-чырвона-белых сцягоў і Пагоня. Іх неслі вядомыя беларусы ды паляк з Сейненскага асяродка „Пагранічча". Гэты вобраз наклікаў пытанне, якое крынкаўскія цёткі паўтаралі як мантру: *A czy nieboszczyk to tego sobie życzył?*

— *O, jak najbardziej!* — адказаў ім нехта зарыентаваны ў светапоглядзе нябожчыка. — *Przecież on sam wieszał takie flagi na swojej chacie...*

— *A to dobrze! A to bardzo dobrze...* — адразу пагадзіліся і супакоіліся мястачкоўцы.

Сам бурмістр Крынак быў глыбока ўзрушаны смерцю пісьменніка і даў мне інтэрв'ю на прыгожай сакольскай беларушчыне.

— Такіх людзей як Сакрат Яновіч у нас не было і ўжо не *будзя!*

* * *

— Сакрат Яновіч быў для мяне вялікім гонарам, вялікім настаўнікам нашай нацыянальнай годнасці, — кажа Андрэй Сцепанюк, дырэктар Бельскага белліцэя, які прыехаў на пахаванне ў Крынкі разам з ліцэістамі і бяльшчанамі. — Гэтае развітанне перажываю вельмі асабіста, — адзначае мой субяседнік, — бо праўда такая: мы ўсе, цэлае маё пакаленне — з яго! Я памятаю, як у 80-я гады мы мелі ў ліцэі гурток „Разбуджаны голас" і запрасілі раз Яновіча на сустрэчу. Ён на нармальнай мове накіроўваў нас да беларускасці, пра якую мы, вучні беларускага ліцэя, нічога не ведалі. Трэба сказаць, што ён быў нашым сумленнем. Сакрата цяжка было чытаць, цяжка слухаць. А чаму? Бо ён заўсёды гаварыў праўду. Ён паказваў, што нельга хістацца. Ён гаварыў, што чалавек перад нацыяй, як перад Богам, павінен быць чэсны.

— Як у ліцэі ўспрынялі смерць пісьменніка?

— Мы чыталі, чытаем і будзем чытаць яго творы. А ўчора я ўдзельнічаў у настаўніцкай біялагічнай сустрэчы і на яе пачатку я прачытаў „Малітву да беларускага слова".

* * *

— Мы ўжо думалі і гаварылі з Юры Хмялеўскім і Лёнікам Тарасэвічам ад Фонду „Віла Сакратэс" як ушанаваць памяць па Сакраце Яновічу, — кажа Багуслаў Марыян Панасюк, бурмістр Крынак. — Можа яго імя прысвоім цэнтральнаму пляцу, назавем вуліцу, можа бюст або помнік яму паставім. Гэта ж быў найбольшы крынчанін, наш вялікі адвакат. Ён вельмі любіў Крынкі, прамаваў нас у цэлым свеце, гаварыў, што тут вялікая гісторыя.

Бурмістр не хаваў узрушэння і жалю па пакойніку.

— Я шкадую, што не сустрэну ўжо яго на вуліцы, што ён не прыйдзе на *одчыт* і не пажартуе... Не прыйдзе ў магістрат і не стане правучаць нас, што


Пахавальнае шэсце вядзе а. Пётр Харытанюк

робім нешта не так як павінна быць. Не падкажа ў які бок павінна ісці наша самаўрадавая праца.

— Ведаеце, найцяжэй быць прарокам у сваім краі, — кажа матушка Людміла Клімук з Паўднёвага Вострава. — У нас таксама не было найбольшага зразумення для таго, што рабіў Сакрат Яновіч. Але з часам усё вяртаецца на кругі свае, на сваё месца. Сёння ўсе важныя чыноўнікі тут на пахаванні ў царкве. Людзі прыехалі здалёк, каб развітацца з вялікім чалавекам.

Сапраўды, правесці ў апошні шлях Сарата Яновіча, 21 лютага г.г., прыехалі людзі з цэлай Польшчы і замежжа.

Сярод прыезджых мы сустрэлі Яраслава Малэцкага з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі:

— Як жа не прыехаць і не пакланіцца апошні раз Сакрату Яновічу! Ён быў апорай беларускай меншасці, выдатнай індывідуальнасцю. Яго кнігі для палякаў — гэта акно, праз якое глядзім на польскіх беларусаў.

Словы прызнання пакойніку выказаў таксама Дабеслаў Жэмянеўскі, начальнік аддзела нацыянальных і этнічных меншасцяў МАіЛ:

— Сакрат Яновіч быў для многіх указальнікам, паказваў, чым ёсць для чалавека тоеснаць. Для нас ён быў вялікім інтэлектуалам польска-беларускага памежжа. Ён хацеў несці беларускае слова і думку да ўсіх беларусаў і ўсіх людзей з Крынак. Хацелася б, каб яго ідэі знайшлі працяг у развіцці беларускай культуры, новых літаратурных твораў, у большай колькасці навучэнцаў беларускай мовы.

На пахаванні былі таксама чыноўнікі з Беластока, між іншым, намеснік прэзідэнта горада Аляксандр Сасна і ўпаўнаважаны ваяводы па справах меншасцей Мацей Тэфельскі, а таксама прадстаўнікі свету культуры, сябры літаратары.

* * *

Правесці ў апошні шлях Сакрата Яновіча прыехаў паэт Юры Плютовіч з Беластока:

— Я перакладаў яго мініяцюры на польскую мову і два раманы, — успамінае паэт. — Гэта быў вялікі пісьменнік. Мне падабалася яго жывая каларытная беларушчына.

Ён быў душой кампаніі. Памятаю, як калісь жартаваў з СБ, якое паклікала яго на допыты. „Ці гэта праўда, што хочаце далучыць Беласточыну да БССР?" А ён: „Так, гэта праўда. Я буду там прэзідэнтам, а Аляксандр Амільяновіч міністрам справядлівасці". Ад пачатку ён намаўляў мяне пісаць па-беларуску. Ён не ўспрымаў да ведама, што маёй мовай будзе польская. І нягледзячы на гэта, мы былі ўсё жыццё сябрамі.

— Ці ў Вашым адчуванні Яновіч быў таксама паэтам?

— Так, найбольш гэта было відаць у яго мініяцюрах. Хаця раз ён мне прызнаўся, што не надта цэніць паэзію, што найвышэй усяго для яго проза.

— Сакрата я ведала больш за трыццаць гадоў, — кажа матушка Людміла Клімук з Паўднёвага Вострава, якая ў час паховін пакіравала царкоўным хорам. — А першы раз пабачыла, як была малая. Ён прыехаў у маю вёску на аўтарскае спатканне. І тады было разводдзе, то памятаю, што з Каралёвага Моста яго адвозілі на трактары ў Супрасль. А з літаратуры то мне найбольш запамяталася кніжка „Сціяна", якраз пра *погжэб*. Там у пахавальным шэсці ішоў бацюшка, які вельмі саромеўся сваёй прафесіі. І аднойчы спытала я ў Сакрата, адкуль такая думка. А ён кажа: „Калісь паехаў я ў Юраўляны і там спаткаў бацюшку, які вельмі расчараваўся сваім душпастырскім прызваннем".

Матушка Людміла вельмі любіла гумар Сакрата Яновіча.

— *Кедысь* я была ў яго хаце, і бачу там харошыя высокія шафкі. І пытаю, як да іх дастацца, а ён на тое: „Калі хто галодны, хай бярэ драбіну і лезе!".

* * *

— Самае важнае, што па чалавеку астаецца ідэя, думка, — кажа мастак і вялікі прыяцель пісьменніка Лёнік Тарасэвіч. — Сакрат быў для нас усіх аўтарытэтам, ён гаварыў нам як жыць з нашай бацькаўшчынай. Часам злаваў, меў прэтэнзію, што наш народ не цвёрды і не ўмее дацаніць беларускасці. Ён сам быў чалавекам гонару, не размяняўся на драбніцу. Некаторыя не маглі сцярпець таго, што Сакрат меў такі вялікі аўтарытэт.

Лёнік Тарасэвіч яшчэ пры жыцці пісьменніка запраектаваў і разбіў агарод з дзесяткамі сартоў разнаколерных вяргінь. Зараз Фонд „Віла Сакратэс" будзе ажыццяўляць праект, каб моду на агародчык з вяргінямі перанесці ў народ.

— А ўжо былі пакражы і гэта значыць, што такія расліны людзі хочуць мець пры сваіх хатах.





# Сартаванне смецця

На мінулым тыдні прыйшла навіна пра тое, што ў горадзе над Нёманам будзе пабудаваны завод для перапрацоўкі смецця. Сусветны банк вылучыў на гэты праект амаль 43 з паловай мільёна долараў крэдыту. Справа, безумоўна, патрэбная. Агучана таксама, што плануецца ўсталёўваць адпаведныя кантэйнерныя пляцоўкі і ўласна кантэйнеры з прыцэлам на тое, што ад смеццяводаў, якія зроблены ў бальшыні шматкватэрных дамоў, у перспектыве можна будзе зусім адмовіцца. Калі так здзейсніцца, то можна будзе толькі радавацца, бо Беларусь — адна з самых засмечаных краін у Еўропе. Паводле падлікаў статыстыкаў на прасторах Сінявокай нагрувашчана ўжо каля 40 мільёнаў тон неперааапрацаваных бытавых адкідаў. Штогод гэтая агромністая маса павялічваецца на чатыры мільёны, а перапрацоўваецца паводле афіцыйных дадзеных толькі 15-20 адсоткаў. У развітых жа краінах гэты паказнік даходзіць да 90 працэнтаў.

Але прыгадалася мне тут, што ў Гродне кантэйнеры на раздзельнае смецце ўжо ўсталёўвалі ў рамках нейкага экалагічнага праекта. Прыкладам, у цэнтральным парку Жылібера зрабілі нібыта ўсё як належыць — дзіркі і надпісы „шкло", „папера", „пластык". Найбольш даверлівыя і сумленныя грамадзяне так і пачалі старанна кідаць смецце ў адпаведныя дзіркі. Толькі нехак прыўзнялі мы з сябрам гэты прыгожы каляровы кантэйнер, а пад ім... агульны бак. Словам, усё адно ўсё ў адну кучу. Каб хацеў, такое не прыдумаў бы. Гэта ж трэба мець адпаведнае мысленне, каб так зрабіць. Прыкладна так, як у класічнай яшчэ з савецкага часу показцы. Прыйшлі людзі працаваць. Адзін капае ямкі, а другі старанна іх адразу засыпае. У першага пытаюць: „Што вы робіце?" — „Ямкі для дрэўцаў капаю!". — „А вы, другі, што?" — „Я не другі, я — трэці, а другі не выйшаў на працу". Так і з гэтымі кантэйнерамі. У нас жа за што не возьмуцца, то альбо раскрадуць, як тыя дзяржаўныя чыноўнікі — міністр спорту і памочнік прэзідэнта, якія драўляныя сарціры падвышанай камфортнасці скралі і завезлі на свае лецішчы, альбо ўсё ідзе не праз галаву, а праз зусім іншае месца. Вось у тым жа Гродне колькі ўжо гаворыцца пра стварэнне горада-музея, але як пачынаюць нешта рабіць, то нічога вартага з гэтага, як правіла, не выходзіць. Якія б праекты не рэалізоўвалі, колькі б грошай не трацілі. Вось паставілі гадоў два таму побач з інфармацыйным турыстычным цэнтрам на вуліцы Ажэшкі турнікет для „паркоўкі" ровараў — за гэты час аніводнага ровара там і блізка не стаяла. Бо тым жа раварыстам па горадзе ездзіць няма дзе. Скачуць яны бедныя з ходнікаў на праезную частку і назад, мучацца. І роварны рух развіваецца сам па сабе, сярод аматараў і без удзелу дзяржаўных асяродкаў.

Што датычыць той жа чысціні беларускіх гарадоў, якой так любяць хваліцца дзяржаўныя ідэолагі, то яна трымаецца найперш на катаржнай працы шматлікіх дворнікаў, якія абавязаны ў кожную пару года выходзіць на працу сярод ночы, асабліва шмат ім клопату зараз, заснежанай зімой. За час змены такі дворнік у больш цёплую пару абавязаны прыбіраць амаль няспынна. А вось культура жыхароў, выхаваных яшчэ савецкай сістэмай, на роўні дзікуноў. Моладзь, якая вырасла ўжо пры новым рэжыме, смеціць проста беспералынна.

Так часам хочацца пахваліць цяперашнюю ўладу хоць за што, але ніяк не атрымліваецца. Вось сталі ў аўтобусах Гродна прапагандаваць мінуўшчыну і культуру горада. Рубрыку добрую прыдумалі — „Жывая гісторыя". Нават па-беларуску запусцілі гэты асветніцкі праект, але і тут не абышлося без лыжкі дзёгцю амаль у кожным гукавым роліку. То вымаўленне беларускіх слоў няправільнае, то праўда гістарычная не сказана да канца. А цяпер сталі ўжо новыя асветніцкія ролікі пускаць па-расейску, перакручваючы на маскоўскі лад імёны гістарычных асоб. І ўсё гэта таму, што людзі робяць нязгодна з тым, што думаюць. Бо найперш трэба любіць сваё, шанаваць сваё, тады гэта будзе арганічна, натуральна і шчыра. Найперш трэба адсартаваць усё ў мазгах і выкінуць на сметнік чужую ідэалогію. І тады можа ўсё спакваля і стане на месца...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Дзяржаўная кішка

Крывадушнасць улады ў адносінах да народа з'яўляецца разбуральнай. Гэта лепш за ўсё ілюструецца прыкладам тэлевізійнага абанементу. Спачатку, аднак, станем у абарону сперматоідаў. Таму, што яны нябачныя, то ніхто не адзначае, што ўлада адказная за іх беспрэцэдэнтны галакост. Вось аўтарытэтныя навукоўцыдаследчыкі з Гарвардскага ўніверсітэта даказалі, што народкі знішчаюцца ў сувязі з масавым шматгадзінным узіраннем у тэлевізар. Лагічнае тое, што ўлады, занепакоеныя ростам дэфіцыту насельніцтва ў краіне, павінны прывесці да неадкладнай ліквідацыі ўсіх тэлестанцый. Але гэтага не адбылося. Горш за тое, улада прачнулася з доўгатэрміновай летаргіі і стала настойліва патрабаваць даніну абанементу-падпіскі. Ускосна прымушае грамадзян глядзець тэлевізар. Чалавечая псіхіка на самай справе даволі нескладаная прылада. Калі хтосьці ўжо плаціць, дык яму не ў галаве добраахвотна адмовіцца ад гэтага. Верагодна, улады гэта разумеюць, і таму пачалі інвазію паведамленняў за пратэрмінаваныя плацяжы і бягучыя аплаты тэлебачання, высыланыя Поштай польскай. Гэта ахапіла ўжо больш за тры мільёны чалавек. У большасці пенсіянераў. Неўзабаве, аднак, плацежныя даручэнні дабяруцца да ўсіх грамадзян. Акрамя таго, маладых па ўзросце і рэпрадуктыўнага ўзросту. Хоць яны і любяць больш за жыццё ў тэлебачанні рамантыку, секс і нават віртуальны свет інтэрнэту і камп'ютарных гульняў, ад грамадскай даніны не ўцякуць. Не без прычыны ўлады на працягу некаторага часу калупаюцца ў адпаведных законах. Вам падпісацца на інтэрнэт немагчыма? Вядома, доўгі час вы можаце глядзець тэлебачанне на ім. Дзяржаўнае таксама. Ну, вы павінны заплаціць! Што гэта абсурд? І ўжо не спрабавалі больш недарэчнасцей аўтарызаваных нашымі ўладамі?

Як улада мае ў пагардзе сперматоіды грамадзян, так паказваецца агідным хамствам, якое з'яўляецца вышэйшай пагардай да пенсіянераў, заблытаных адным выказваннем прэм'ера на тэлебачанні пра тэлевізійную даніну. Сёння за сваю наіўнасць ці нават за празмерны спрыт заплацяць яны галодным жыццём, мо прыніжэннем ад судовага прыстава. Я лічу, аднак, што адпаведным для яго адрасам з'яўляецца кабінет прэм'ер-міністра. Ён павінен асабіста заплаціць агульную суму абаненцкай платы з працэнтнай доляй. І ўсім пенсіянерам. Вядома, ніхто не прапанаваў ім у лёгкіх словах адмову ад абанементу. Не было ж гаворкі аб сімпатыі да яго, але аб узяцці пад кантроль Нацыянальнай рады па радыёвяшчанні і тэлебачанні, бо ў ёй пераважаюць апазіцыйныя партыі да кіруючай ГП. Як вы ведаеце, КРРіТ адказвае за фінансы грамадскага тэлебачання. Калі няправільна кіруе імі, гэта добрая нагода, каб біць скуру для яе членаў. Але КРРіТ таксама мае вырашальнае значэнне для фармавання грамядзянскай думкі праз кінескоп. Ні адзін орган гэтага інструмента добраахвотна не схоча сысці ў адстаўку. Абаненты, аднак, не зацікаўлены закулісней гульнёй улады. Для іх хапіў прэм'ераўскі сігнал — не плаціць! Калі з часам ГП выпхнула з КРРіТ варожых ёй членаў, замяніўшы іх партыйнымі землякамі, раптам аказалася, што неаплачаны абанемент павінен быць аплачаны разам з працэнтамі. Бледны страх напаў на пажылых людзей. Але ж таксама пачаў кіпець у іх праведны гнеў. Шмат набыло на бітве мохерны берэт, многія вухам прысмакталіся да Рыдзыкавага радыё, і нават больш кінула глядзець грамадскае тэлебачанне. Але ў каго ёсць тэлевізар, ён павінен плаціць падпіску. Такім чынам улада прысабечвае прыватныя тэлевізары. Між тым, прэм'ер-міністр праз залатавусных супрацоўнікаў патлумачыў, што заява аб даніне была яго асабістым, прыватным меркаваннем, на якое ён мае права як грамадзянін свабоднай, дэмакратычнай дзяржавы. Ужо не чуў я больш крывадушнасці. З гэтага выказвання відавочна, што, цяперашні прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск мог гаварыць, што яму прынясе сліна на язык, таму што як прэм'ер Дональд Туск не можа несці адказнасці за тое, што пляце кожны асобны грамадзянін... Гэта няпраўда. Пакуль ён з'яўляецца прэм'ер-міністрам Польшчы Дональдам Тускам і выказваецца публічна, ён адказвае за свае словы як прадстаўнік улады і дзяржавы. Нават калі кажа аб бульбяной кішцы, калі гэта публічная заява, бульбяная кішка атрымлівае статус дзяржаўнай. Таксама пільнуйма, каб улады не прысабечылі нашых тэлевізараў. Таму што пакуль яны нашы, то мы можам выкінуць іх на сметніцу. Разам з грамадскім тэлебачаннем і такой кішкаватай уладай. Вось што!

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Дзіўны выпадак



Гэтак дзіўна здарылася, што якраз на 18 лютага, некалькі гадзін пасля адыходу Сакрата Яновіча, я быў запрошаны ў Інстытут нацыянальнай памяці ў Беластоку, каб прачытаць некаторыя з дакументаў, якія адносяцца да культурнага асяроддзя Беластока ў першай палове 1970-х гадоў і маёй пакойнай маці, якая ў той час кіравала Культурна-асветнай кансультацыяй у Беластоку. Я атрымаў дакумент з шасці старонак састаўлены 17 лютага 1973 года, роўна 40 гадоў да дня сыходу пісьменніка з Крынак, тады жыхара Беластока. Чарговае дзіўнае супадзенне. Дадзены дакумент уяўляе сабой запіску аб сустрэчы пад дэвізам «Беласток культурных навін», якую мая мама арганізавала пры ўдзеле, між іншым, непакорлівых пісьменнікаў і журналістаў, якія пасля фармальна звяжуцца з апазіцыяй — Казімежа Орлася, Пятра Вяжбіцкага, а таксама Эдварда Рэдлінскага і якраз Сакрата Яновіча.

Я прадстаўлю вашай увазе фрагмент неапублікаванага дакумента, падпісанага камендатурыя III аддзела ваяводскай камендатуры міліцыі ў Беластоку, складзенага са слоў Ежы Л.: «Вядучай фігурай у гэтай частцы мерапрыемства быў Сакрат Яновіч. Стала гэта па дзвюх прычынах: — артыкуле Казімежа Орлася («Хто баіцца Віткевіча» — «Літаратура» № 2...). Яновіч з'яўляецца прыкладам пісьменніка, які марнуе свой талент, таму што замест стварання — з'яўляецца працоўным інтэлігентам у некаторых кааператывах і ўправе аптэк. Гэты акцэнт надалей праяўляўся ў пасяджэнні. — Сакрат Яновіч для некаторых (Лявіцкая-Пэзовіч, Насядка, Рэдлінскі) з'яўляецца сімвалам «непрымірымасці ў адносінах да ворага», якім можа быць, у залежнасці ад яго прызнання і канкрэтнай сітуацыі, улада, структура або канкрэтны чалавек. Яновіч усё яшчэ адчувае сябе як «герой» у барацьбе не столькі за ўласнае выжыванне, але ў асноўным за «нацыянальную справу», за «паляпшэнне сацыялістычнай сістэмы», за «інтарэсы мясцовых літаратараў». І затым афіцэр СБ піша: «Меркаванне аб паводзінах Яновіча на гэтай вечарыне падзелена. Адны (некаторыя журналісты «Беластоцкай газеты» і Польскага радыё) лічаць, што «Яновіч выйшаў на клоўна і даў Орласю і яго паплечнікам аргумент, што мясцовыя ўлады працягваюць ставіцца да культурнага і творчага асяроддзя па-мачашынаму». Іншыя (Вяжбіцкі з «Літаратуры»", Цясельскі, Кшыжагурскі) Яновіча ацэньваюць станоўча. Напрыклад, Вяжбіцкі сказаў, што Яновіч гэта выдатны чалавек, ён павінен быць галоўным рэдактарам штомесячніка «Кантрасты», ён у вас марнуецца».

Сакрат Яновіч прачытаў у час гэтага спаткання мініяцюру «Karolek» (я не знайшоў нідзе гэтага тэксту). Пазней аўтар задаваў пытанні. Калі яго спыталі аб яго хобі, ён адказаў на радасць сабраным (прозвішчы тых, хто смяяўся, запісаны ў нататцы): «Зараблянне на жыццё ў кааператыве ў якасці дастаўшчыка». Дадаў: «Я магу таксама аказваць шавецкія паслугі, калі б старшыня даў мне будку на Сенным рынку. Цяпер, аднак, не прыняў бы гэтай прапановы, таму што ўсе будкі на Сенным рынку пойдуць на знос, і я страчу працу». У заключэнне афіцэр бяспекі між іншым заявіў: «У сувязі з тым, што Сакрат Яновіч падаецца ў розных выпадках у якасці прыкладу «няправільнага выкарыстання таленту», трэба запрапанаваць партыйнай інстанцыі яго працаўладкаванне паводле ягоных кваліфікацый». Наколькі я ведаю, гэтак і сталася. Ён знайшоў працу ў Гарадской культурна-асветнай кансультацыі. Вось столькі наконт дзіўных супадзенняў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Годна адзначылі Міжнародны дзень роднай мовы

Ваяводскія элімінацыі Прадметнага конкурсу па беларускай мове для вучняў падставовых школ адбыліся 21 лютага ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Вучні годна адзначылі Міжнародны дзень роднай мовы, удала справіўшыся з конкурсным тэстам па беларускай мове. Настаўнікі беларускай мовы на занятках у сваіх школах вучаць не толькі роднай мове і літаратуры, але і нашым традыцыям, што спрычыняецца да фармавання іх нацыянальнай свядомасці. Пасля конкурснага тэсту вучні былі рады, што не быў ён складаным і спадзяваліся, што здабудуць прынамсі 80% магчымых да атрымання балаў і стануць лаўрэатамі. Іх спадзяванні апраўдаліся, бо ўсе ўдзельнікі ваяводскіх элімінацый — 34 вучні з 9 школ — сталі лаўрэатамі Прадметнага конкурсу па беларускай мове.


Вучні Непублічнай падставовай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока: Вераніка Кардзюкевіч, Аляксандр Анхімюк, Міхал Сахарчук, Зузанна Кардзюкевіч, Клаўдзія Галінская, Дамініка Благушэўская і іх настаўніца беларускай мовы Іаанна Марко

Пасля напісання тэсту шэсць вучняў IV-VI класаў Непублічнай падставовай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока трымаліся разам. Дзеткі сказалі, што самым складаным у тэсце было для іх падбіранне сінонімаў да прадстаўленых слоў. Тое ж гаварылі таксама іншыя мае суразмоўцы. Калі конкурснай камісіяй былі правераны ўсе работы, пацвердзіліся апаскі вучняў. Аказалася, што дзеткі наогул найменш балаў набіралі за задачу з падборкай сінонімаў. Усе іншыя задачы дзеткі з беластоцкай школы лічылі простымі.

— Нам больш даспадобы задачы па літаратуры, а цяжэй даецца нам граматыка. У тэсце лёгка было справіцца з практыкаваннямі, дзе трэба было ўстаўляць «у» або «ў» і ўпісваць займеннікі, — заявілі дзяўчаткі са школы свсв. Кірылы і Мяфодзія.

Старшыня конкурснай камісіі, настаўніца беларускай мовы з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім Міраслава Маркевіч пасля ўдакладніла, што амаль ніхто не зрабіў памылак падбіраючы займеннікі і ўстаўляючы «у» або «ў».

— Мы практычна ад пачатку школьнага года пачалі рыхтавацца да конкурсу па беларускай мове, а больш інтэнсіўна сталі працаваць апошнія два месяцы. Супольна вырашалі праблемныя пытанні, а дзеткі таксама вучыліся дома, — сказала настаўніца беларускай мовы з беластоцкай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія Іаанна Марко.

— Мы любім родную беларускую мову. Цікавымі для нас з'яўляюцца заняткі па-беларуску. Зараз спяшаемся ў сваю школу, бо з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы будзем яшчэ пісаць беларускую дыктоўку, — сказалі вучні з Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія. — Наша настаўніца беларускай мовы ёсць нам як мама, умее зацікавіць сваім прадметам. На ўроках беларускай мовы мы чытаем цікавыя казкі, апавяданні і вершы, ходзім на экскурсіі і робім многа цікавага.

— Я на ўроках стараюся зацікавіць вучняў нашай гісторыяй, мовай і нацыянальнымі сімваламі, — сказала настаўніца Іаанна Марко. — У навучанні роднай мовы ў нашай школе вельмі важная ангажаванасць бацькоў, з якімі мы супольна рэалізуем розныя ініцыятывы.

Вучаніца Альжбета Харкевіч са школы ў Нараўцы сказала, што магла справіцца з пытаннямі па літаратуры і граматыцы дзякуючы таму, што многа рыхтавалася да конкурсу са сваёй настаўніцай.

— Беларускую мову лічу роднай, бо і ў мяне дома на ёй размаўляем. Урокі беларускай мовы цікавыя з-за іх разнастайнаці, — сказала вучаніца Альжбета Харкевіч.

Віцэ-дырэктар Комплексу школ у Нараўцы і заадно настаўніца беларускай мовы Ліля Тарасевіч дадала, што вучняў на ўроках беларускай мовы цікавяць конкурсы і гульні, любяць таксама рашаць крыжаванкі ў «Зорцы».

— У нас у школе прыблізна 40% вучняў ходзяць на заняткі па беларускай мове. Мы стараемся заахвоціць штораз больш дзетак і тлумачым ім, што трэба вучыцца роднай мове, мове сваіх продкаў. Пры нагодзе Міжнароднага дня роднай мовы будзем яшчэ больш гаварыць пра беларускую мову, — заявіла Ліля Тарасевіч.

— Я прыступіла да Конкурсу па беларускай мове, бо хацела самой сабе паказаць, што спраўлюся з тэстам і здабуду званне лаўрэата. Разлічваю, што атрымаю шасцёрку па беларускай мове і перамога ў конкурсе дазволіць мне самой выбраць гімназію, у якую буду прынята без конкурсу, — сказала Дамініка Пуц з Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы, лаўрэатка дэкламатарскіх конкурсаў. Яе школьная сяброўка Патрыцыя Лапінская сказала, што таксама хацела трапіць у лік пераможцаў беларускага конкурсу.

Палову ўдзельнікаў ваяводскіх элімінацый конкурсу састаўлялі вучні бельскай «тройкі».

— Тэст не быў складаным, але і не быў цалкам лёгкім. Трэба было задумацца, каб правільна напісаць практыкаванні. Аднак мы любім нашую беларускую мову і ахвотна яе вывучаем. На занятках больш цікавіць нас літаратура, але і па граматыцы любім працаваць з нашым настаўнікам Андрэем Марозам, — гаварылі Патрыцыя Нічыпарук і Давід Асташэвіч з бельскай «тройкі».

Соня Ніна Сульжык з Падставовай школы ў Гарадку таксама ахвотна вучыцца роднай мове і многа часу адвяла падрыхтоўцы да беларускамоўнага конкурсу.

Са старшынёй конкурснай камісіі мне ўдалося пагаварыць па праверцы тэстаў.

— Відаць, што ўсе вучні салідна падрыхтаваліся да конкурсу, бо ўсе сталі лаўрэатамі ваяводскіх элімінацый. Паедуць яны на падсумаванне конкурсу ў Беласток, а ў сваіх школах таксама атрымаюць узнагароды. Тэст наогул не быў складаным, бо вучні здавалі камісіі працы датэрмінова. Працуючы з тэстамі вучням трэба было адказваць на пытанні да легенды «Дамавікова ўдзячнасць». У апавяданні Якуба Коласа «Дуб і чароціна» трэба было ўставіць словы з дужак і апісаць Кастуся з апавядання «Сапраўдныя сябры». Было таксама практыкаванне на правапіс «д» — «т». Вучні добра спраўляліся з конкурснымі задачамі, — лічыць старшыня конкурснай камісіі Міраслава Маркевіч.

Настаўніца беларускай мовы з Пачатковай школы № 4 у Беластоку Аліна Ваўранюк сказала, што кожны ўрок беларускай мовы ў яе школе гэта свята роднай мовы і таму не плануе асобна адзначаць з вучнямі Міжнароднага дня роднай мовы.

— А я ў сваёй школе з нагоды свята роднай мовы планую запрапанаваць вучням III класа напісаць дыктоўку па-беларуску. Я зараз вучу беларускай мове дзетак I-III класаў. Вучні I-II класаў яшчэ замалыя, каб пісаць дыктоўкі. З наймалодшымі дзеткамі таксама яшчэ зарана гаварыць падрабязна аб нацыянальных справах. Стараюся як мага найбольш зацікавіць іх урокамі беларускай мовы і прыгажосцю нашай роднай мовы, — заявіла настаўніца Ніна Абрамюк з Комплексу школ у Нарве.

— Бацькі, якія пасылаюць сваіх дзетак у нашую школу, ведаюць, што тут навучанне адбываецца на прынцыпах роднай мовы і станоўча ставяцца да гэтай ідэі. Нават вучні з вёсак распаложаных каля Бельска паступаюць у нашую школу. Сёння так супала, што конкурс адбываецца ў Міжнародны дзень роднай мовы. Гэта добрая нагода, каб звярнуць увагу на родную мову, — гаварыла настаўніца з бельскай «тройкі» Міраслава Маркевіч.

Дыскусію на тэму роднай мовы падтрымала настаўніца беларускай мовы з Комплексу школ у Дубінах Ніна Куптэль:

— Я ў кабінеце беларускай мовы павешу лозунгі з заклікам шанаваць родную мову, напрыклад «Калі ёсць мова, ёсць нацыя» і іншыя гэтага роду, — сказала яна. — Польскамоўным вучням тлумачу, што беларуская мова, гэта родная мова большасці іх бацькоў і трэба яе вывучаць і шанаваць.

Арцём Яўсеенка і Мілена Блажко з Падставовай школы № 4 у Беластоку таксама ўдала справіліся з тэстам па беларускай мове.

— Нашая пані Аліна Ваўранюк вучыць нас любіць родную беларускую мову і стараецца зацікавіць нас разнароднымі ўрокамі, — сказалі Арцём і Мілена.

Самую вялікую колькасць балаў (62) набралі Радаслаў Саковіч з Падставовай школы № 6 у Гайнаўцы, Уршуля Паўлючук з ПШ у Чыжах і Наталля Міранчук з ПШ у Орлі. Па 60 балаў здабылі вучні з бельскай «тройкі» — Пётр Свідэрскі, Юлія Банькоўская, Уршуля Амбражэвіч і Адам Сцепанюк ды Вераніка Кардзюкевіч з НПШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Па 59 балаў набралі Патрыцыя Лапінская і Дамініка Пуц з ПШ № 3 у Гайнаўцы, Патрыцыя Нічыпарук і Вікторыя Артэмюк з бельскай «тройкі».

# Беластоцкі застой

Заўважаю, што сталіца Падляшша перажывае нейкую стагнацыю не толькі ў плане новых месц працы, якіх няма, але проста ў культурным жыцці. Для студэнтаў у Беластоку няма цікавых канцэртаў. Самыя папулярныя польскія рок- ці поп-зоркі наведваюць усе гарады ў Польшчы, толькі не Беласток. Сюды прыязджаюць з канцэртамі старыя, забытыя польскія спевакі, якія ў час свайго музычнага ўзлёту не прыязджалі да нас, напрыклад, Ежы Паломскі ці Кшыштаф Краўчык. Заўжды чакаю калі прыедзе мой любімы гурт „Lady Pank", але, мабыць, не дачакаюся. Апошнім часам я чытаў інтэрв'ю з польскім музыкантам дзесятага плана, які сказаў, што не прыязджае ў Беласток, бо ў нас слабыя дарогі. Дарэчы, калі гляджу на суседнія ваяводскія гарады Люблін ці Ольштын, то ў іх намнога больш культурных падзей, чымся ў нашым Беластоку. Асабліва ў час ювеналій — свята студэнтаў, „Картавіяда" ў Ольштыне прыцягвае намнога больш зорак эстрады, чымся Беласток. Адносна ювеналіяў скажу, што за маіх студэнцкіх гадоў намнога больш адбывалася цікавых канцэртаў чымся зараз. Добра памятаю як у час сваёй адукацыі я пабываў на канцэртах такіх гуртоў як „Dżem", „Oddział Zamknięty", „Ira", „Myslovitz", „T-Love", якія ігралі на ювеналіях у Беластоку. Таксама з Вялікім аркестрам Юрыя Оўсяка. Яшчэ пару гадоў таму я пабываў на канцэрце маёй любімай польскай рок-групы „KSU", якая іграла на Рынку Касцюшкі. Тое ж самае з сільвестрам у Беластоку. У гэтым годзе ў сільвестравы вечар найбольшай зоркай была Патрыцыя Казадзі. Дарэчы, не прозвішча мне асацыюецца больш з акцёркай чымся са спявачкай. Таму беластоцкія студэнты, каб пайсці на канцэрт любімых зорак, вымушаныя выязджаць у іншыя гарады. Мой сябар Новы 2013 год правёў у Вроцлаве. Там на сільвестра, арганізаванага II праграмай Польскага тэлебачання, ігралі найбольшыя зоркі польскай эстрады — Марыля Радовіч, „Lady Pank", „Kombi", „Perfect" ды іншыя. Беласток сваімі культурнымі падзеямі сапраўды моцна адстае ад рэшты гарадоў Польшчы. Канцэртаў вядомых зорак у Беластоку няма, бо ў Беластоку на самай справе няма вялікай залы ці такога ж стадыёна. Дарэчы, канцэртны зал трэба запоўніць слухачамі. І так адно з другім вяжацца. Таксама новапабудаваная опера ў Беластоку сваімі цэнамі білетаў адпалохвае жыхароў Беластока. Апошнім часам я чуў па Радыё Беласток, што Беластоцкую оперу больш наведваюць жыхары Варшавы ці Гданьска, чымся самі беластачане. Беласток яшчэ дзесяць гадоў таму меў намнога больш культурных прапаноў, чымся зараз.

**Юрка БУЙНЮК**



Яўгена Чыквіна і яго адвакаты не было падчас чытання прысуду

# Гэта яшчэ не скончылася?

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

На думку суда, сабраныя ў справе доказы дазваляюць выразна і ўпэўнена сказаць, што Яўген Чыквін падаў сапраўдную заяву аб люстрацыі. Не існуе ніякіх сумненняў, што люстраваны ў 1970-х і 1980-х гадах выконваў прафесійную працу і вёў грамадска-палітычную дзейнасць у розных арганізацыях на відных пасадах, што лучылася з зацікаўленнем службы бяспекі яго асобай. Працуючы ў законна дзейнічаючых органах дзяржаўнай улады не мог ён пазбегнуць гэтых кантактаў, — так 22 лютага пастанавіў Акруговы суд у Беластоку, закрываючы справу аб люстрацыйнай хлусні падляшскага дэпутата Сейма ад СЛД, у сувязі з апеляцыяй Інстытута нацыянальнай памяці (ІНП) пасля рашэння суда першай інстанцыі.

ІНП чатыры гады таму сабраў матэрыялы, якія павінны былі сведчыць, што дэпутат парламента Яўген Чыквін падаў у верасні 2007 г. ілжывую люстрацыйную заяву. Па меркаванні пракуроркі Агнешкі Русіловіч, якая прадстаўляла Інстытут, ён супрацоўнічаў з IV Дэпартаментам Службы бяспекі, маючым справы з цэрквамі і арганізацыямі рэлігійных аб'яднанняў, у 1983-1989 гадах (але ўжо з другой паловы 1970-х гадоў СБ была ім зацікаўлена). За тыдзень да аб'яўлення канчатковага рашэння ў заключным выступленні пракурорка Русіловіч сцвердзіла:

— Адносна самога факту рэгістрацыі ў якасці сакрэтнага супрацоўніка Яўгена Чыквіна няма сумнення (...). З дакументаў вынікае, што быў ведзены як сакрэтны супрацоўнік на працягу шасці гадоў. У той час вялі яго тры афіцэры СБ. Трох кіраўнікоў назіралі за вядзеннем гэтага сакрэтнага супрацоўніка. Працягласць супрацоўніцтва і лік высокапастаўленых афіцэраў, якія ўдзельнічалі ў вядзенні сакрэтнага супрацоўніка азначае, што не можа быць ніякай фіктыўнасці. Варта адзначыць, што ў той час ён ужо быў членам парламента і ні адзін з афіцэраў не мог сабе дазволіць на яго фіктыўную рэгістрацыю, якая адбілася б ў той жа перыяд (...). Апытаныя чыноўнікі службы бяспекі праяўлялі ахоўнае імкненне ў адносінах да люстраванага.

Чарговы судовы разгляд у Акруговым судзе ў Беластоку вёўся са студзеня мінулага года. У лістападзе 2011 г. Апеляцыйны суд у Беластоку прыняў зварот люстрацыйнага аддзела ІНП і адмяніў рашэнне суда першай інстанцыі, які пастанавіў, што люстрацыйная заява Яўгена Чыквіна была сапраўднай.

Сам Яўген Чыквін неадназова прэрчыў, што ў пісьмовай ці вуснай форме не выказаў любога пагаднення аб супрацоўніцтве з польскай ці савецкай службамі бяспекі. Ён паведаміў пра перамовы з імі і абставіны, у якіх яны праводзіліся, сярод іншага падчас яго працы ў Брацтве праваслаўнай моладзі, і як старшыні Ваяводскага аддзялення Хрысціянскага грамадскага аб'яднання. Ён адмаўляў таксама, што рабіў па іх даручэнні любыя даклады, на нікога не выдаваў канфідэнцыйнай інфармацыі, а таксама паставіў пад сумненне інфармацыю, якая змяшчаецца ў матэрыялах СБ, якая, на думку ІНП, давяла да заявы аб люстрацыйнай хлусні.

Увогуле люстрацыя дэпутата Чыквіна цягнецца з 1993 года. У лістападзе таго ж года Варшаўскі акруговы суд забавязаў кіраўніка Міністэрства ўнутраных спраў публічна папрасіць прабачэння за парушэнне асабістага дабра ў сувязі з абвінавачаннямі ў супрацоўніцтве з СБ.

— Дваццаць гадоў я жыву з таўром агента. Таго, хто даносіў і крыўдзіў людзей. Шкодзіў мясцовай абшчыне і польскай дзяржаве, — з хваляваннем сказаў дэпутат у сваім апошнім выступе.

У сваім заключным выступе абаронца Кшыштаф Чашэйка-Сахацкі, між іншым, адзначыў, што не было ніякай папкі Яўгена Чыквіна і прадстаўлены пракуроркай Русіловіч матэрыял гэта проста набор дакументаў з розных так званых аб'ектна-арыентаваных спраў і іншых асоб, што было пацверджана падчас судовага разбору сведкамі, якімі былі ў асноўным былыя функцыянеры СБ.

— Не існуе ніякіх доказаў, што Яўген Чыквін перадаў нейкую сакрэтную інфармацыю.

Сам люстраваны паўтарыў у заключным выступе:

— Я ніколі не супрацоўнічаў з ніякімі арганізацыямі дзяржбяспекі ПНР, ані службамі незалежнай Польшчы. Усе дакументы па гэтай справе былі зроблены без майго ведама, інфармаванасці і згоды. Я ніколі не меў ніякіх псеўданімаў. Ніколі, ні ў якой форме на супрацоўніцтва не даваў дазволу. Я катэгарычна аспрэчваю сцвярджэнні пані пракурор, пра быццам бы даручанне мне задач. Ніколі ані я, ані маё асяроддзе не чэрпалі на кантактах са службамі ніякай карысці. Я адчуваю сябе ахвярай дзеяннаў СБ, савецкага КДБ і подлых дзеянняў функцыянераў ІНП.

Славамір Валосік, старшыня суддзейскага складу, амаль гадзіну чытаў заяву судовага рашэння:

— У адпаведнасці з рашэннем суда тлумачэнні Яўгена Чыквіна заслугоўваюць таго, каб даць ім веру. Яны фактычныя, шчырыя і лагічныя. Яны ў той жа час пацверджаны іншымі пэўнымі доказамі.

Ён падкрэсліў:

— На думку суда не аспрэчваецца, што захаваныя архіўныя матэрыялы датычныя Яўгена Чыквіна — вытворчасці былой службы бяспекі, а выяўленыя і прадстаўленыя ў судзе пракурорам ІНП, з'яўляюцца важнымі доказамі абвінавачваючымі люстраванага, якія маглі б падарваць давер да яго тлумачэння. Аднак, яны не з'яўляюцца поўнымі. Ні адзін з гэтых дакументаў не дазволіў бы суду паказаць дакладна блізкі ланцуг доказаў таго, што люстраваны зрабіў ілжывую заяву. На такое закрыццё не дазваляюць таксама асабістыя крыніцы доказаў, а менавіта паказанні апытаных сведак. У прыватнасці, у захаваных архіўных матэрыялах няма не толькі пісьмовага абавязацельства Яўгена Чыквіна аб супрацоўніцтве ў якасці сакрэтнага супрацоўніка, але і любых іншых надзейных дакументаў, якія пацвярджаюць яго сакрэтнае супрацоўніцтва з СБ, зробленых ім асабіста або ім падпісаныя, якія паведамлялі б аб атрыманні квітоў, і таксама зробленых былымі супрацоўнікамі СБ.

Як сказаў суддзя Валосік, з дакументаў СБ вынікае, што Яўген Чыквін быў зарэгістраваны 23 жніўня 1977 года ў катэгорыі «аператыўнага забеспячэння». Пазней (без даты) катэгорыя была зменена на «кандыдата на сакрэтнага супрацоўніка». Тут суд адзначыў, што службы, рэгіструючы кандыдата на сакрэтнага супрацоўніка, не патрабавалі вуснага або пісьмовага пагаднення, і нават у гэтых асоб не было ведаў наконт гэтага. У лістападзе 1983 года Яўген Чыквін быў перакваліфікаваны на сакрэтнага супрацоўніка па мянушцы «Izydor» і ў ліпені 1984 года яго псеўданім змяняюць на «Wilhelm». У верасні 1988 года справа была «выдаленая з запісаў аперацыі і прадстаўлена ў архіў», і дакументацыя сакрэтнага супрацоўніка «Izydor» і «Wilhelm» была знішчана, але няма запісу аб гэтым факце.

— У архівах былой СБ захаваліся толькі некалькі паасобных дакументаў, якія тычацца люстраванага, затым збіраюцца яны ў адну папку, — адзначыў старшыня суддзейскага складу. — Яна ўключае ў сябе шэраг дакументаў і запісы, зробленыя супрацоўнікамі СБ, што сведчаць аб тым, што люстраваны быў ведзены ў якасці сакрэтнага супрацоўніка (...). У архівах не знойдзена не толькі забавязання да тайнага супрацоўніцтва, падпісанага Яўгенам Чыквіным, але і яго асабовай справы і г.зв. працоўнай папкі (...). На думку суда, сабраныя архіўныя матэрыялы не дазваляюць дакладна вызначыць, што люстраваны асабіста падпісаў абавязацельства аб сакрэтным супрацоўніцтве ці даў вусную згоду, і больш за тое, што свядома прыняў рашэнне і ў рамках кантракта выконваў задачы

працяг ☞11

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Каля Браньска



Апошнім часам пісалася мне крыху пра яцвягаў, але пара памаленьку развітвацца з імі. Іпацьеўскі летапіс пазіцыянаваў яцвягаў за Бобрай і, мабыць, гэта была найбольш дакладная геаграфічная інфармацыя пра іх. Праведзеныя ў мінулым стагоддзі археалагічныя даследаванні не выявілі слядоў іх пражывання на Падляшшы, у наваколлі Драгічына, пра што былі калісь перакананыя польскія сярэдневяковыя летапісцы, м.інш. Ян Длугаш.

Іншыя аўтары летапісаў народ той рассялялі даволі шырока. Яшчэ віленскі гісторык Ігнат Даніловіч, народжаны ў падбельскіх Грыневічах, які займаўся вывучэннем мінулага нашых зямель у першай палове XIX стагоддзя, так быў згадваў пра іх: „Poleszuków biorą za odnogę starożytnych Jadźwingów, od czasów niepamiętnych rozciągających się szeroko od Rusi i Wołynia aż ku Litwie, Mazowszu i Prusom. Wedle Henninga i Naruszewicza kraj, w którym zajmowali rozproszone siedziby Jadźwingowie, obejmował późniejsze krainy: Polesia z Brześciem, Nowogródkiem i Chełmnem; Podlasie, część Mazowsza, zajętą między rzekami Bug i Wolborz wpadającą do Narwi; nakoniec starożytną Sudawją również Pruską jako Litewsko-Żmudzką. Czasy późniejsze z odmianą rządu i tylu panów nadały im ściślejsze granice, zawsze atoli graniczyli na północ z krainą Galindów, dzisiejszym Goniądzem. Należy wnosić, że do XII wieku imię Jadźwingów przetrwało, ile przekonywają Ruscy Latopiscy. Pierwszy Kadłubek a za nim Bogufał dał im nazwisko Pollexiani, Podlasianie, a czystsza niby łacina na Subsilvanów ich przemieniła”.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага, з 1880-1914 гадоў, падае яшчэ цікавейшыя інфармацыі пра яцвягаў: „Narodowość J. tak została określoną przez kronikę t. z. Bogufały (wielkopolską) i przez Długosza: „Pollexiani są rodem Getów czyli Prusaków” i „ród Jaczwingów ku płn. w sąsiedztwie Mazowsza, Rusi i Litwy położony, wielkie ma językowe podobieństwo z Prusami i Litwą” (pod r. 1264). Kromer twierdził, że zgoła różnego od mowy Słowian i Litwy języka używają. Z krytyków Naruszewicz wywodzi ich od Jazygów z nad Dunaju, z czem się zgadza Lelewel. Szafarzyk widzi najdawniejszy ich ślad w opisie Jordanessa z VI w. ludu pod nazwą Inaunxes (zapewne in Aunxis, w Auksztote, t. j. w ziemi Wyższej, gdy Żemajtes, Żmudź, ziemię Niższą oznacza) i uważa ich za krewnych Alanów; D. Szulc za Polaków; Narbutt i Jaroszewicz za krewnych Litwy, w czem podobni są do źródeł najdawniejszych. Znalazł Narbutt w skidelskiem nad rzekami Pielasą i Kotrą ludność zwaną Jodweżaj, podobną do Litwy językiem, ale różną ciemniejszą cerą, obyczajami i czarną odzieżą. Nazwisko wywodzą od Jodas-weżas (czarny rak) a także „jautis”, wół po litewsku. Kronika hipaciejowska p. r. 6764 (1256) dochowała nazwy wsi ich, które mają charakterystyczne końcówki po litewsku: Bołdykiszki, Prywiszcza, Płydykiszcze, Prowiszcza, Tajsewicze, Burjala (Dobrzyjałów za Łomżą i Wizną), Rajmocze (Ramoty w biebrzańskiem), Komaty (zapewne uroczysko Kumat w pow. brańskim, gub. grodzieńskiej, na folw. Kiersznówka), Dora. Pollexian czyli Podlasian Kadłubek w XII w. uważa też za Prusów czyli Getów t. j. Jadźwingów. Bulle papieskie 1256 i 1257 pogan oddawanych do nawrócenia Kazimierzowi kujawsko-łęczyckiemu (synowi Konrada I) i Bolesławowi (synowi Leszka) krakowskiemu raz Jatwieżą, drugi raz Galindami i Pollexianami nazywają. Dziwna legenda u Długosza, że Kock (w lubelskiem) trzymał niegdyś jakiś książę włoski (od Włochów-Italów wywodzono Litwę!) świadczy także o jakichś jadźwińskich resztkach w tych stronach. Już r. 1167 Bolesław Kędzierzawy, jako spadkobierca Mazowsza i Kujaw, wyprawił się na Getów i wówczas to (śród Prusów) zginął Henryk Sandomierski brat jego. Legataryusz Kędzierzawego, Kazimierz II „z biskupem płockim” (więc jako książę Mazowsza) wyprawia się na Polleksyan, zwłaszcza za to że książę drohicki „Pollexius” awanturników (latrunculos) ruskich u siebie skrycie trzyma. Dalszym momentem tych podbojów apostolskich Jaćwieży przez Mazurów jest akt nadania „zamku Drohiczyna i całej ziemi z tej samej strony zamku zawartej od środka rzeki Bug i Nur do granic ruskich”, przez Konrada I zakonowi „rycerzy Chrystusa”, niegdyś dobrzyńskiego zakładu 1237 r. Rycerzy tych zrazu ustanowionych przeciw prusakom na Mazowszu, przeniósł Konrad na wschód dla poskromienia ostatecznego Jaćwieży. Ponieważ Rusini z Drohiczyna od XI w. ciągle kusili się o Jaćwież, a ta jest krewną Prusaków, bardzo być może, że te różne nazwy najezdników z r. 1244 mają oznaczać Prusaków uległych Rusi, t. j. Podlasian czyli Jadźwingów. W Łukowie „pogranicznym od Litwy” dla Jatwesonii są postanowieni biskupi: 1249 Henryk dominikan, 1257 Bartłomiej z Czech franciszkanin, głosiciel krucyaty na Jaćwież 1254. Równolegle z temi zabiegami krucyatowemi Polaków, Ruś stara się posiąść Jaćwież północną, obejmując spadek po Litwie, i tu najczynniejszym jest Daniel syn Romana halickiego. Tym sposobem zdaje się północna Jaćwież koło Narwi, Rajgrodu, Wizny przeszła w posiadanie Rusi, gdy południowa podlaska wpada w ręce polskie. R. 1264 pokonały wojska krakowskie Jadźwingów, i ich wodza Komata położyły trupem. Pod r. 1282 jedne źródła zapisują zwycięstwo Leszka Czarnego nad Litwą, inne nad Jadźwingami, których dognał za Narwią. (Dowód to nowy tożsamości obu ludów). Długosz walkę tę uważa za kres bytu Jaćwieży, wytępionej podówczas co do nogi. Z ich wierzeń religijnych wiemy (z Kadłubka), że wyznawali przechodzenie dusz ludzkich w ciała zwierzęce. Ich kraina rodzinna słynie z błot, które zdaje się dały także nazwę Drohiczynowi nad Bugiem i plemieniu Dregowiczów, między Prypecią i Dźwiną (od dregwa, po białorusku błoto; kirba, po litewsku błoto, ma być źródłem nazwy Krywiczów). Trybem też pierwotnych Słowian, w tych błotnych ostępach mieszkają, bagna i bory mając za twierdze”. Магчыма, што існуюць і іншыя слоўнікі, якія прыносяць яшчэ больш неверагодныя весткі пра таямнічых тых яцвягаў.

З гэтага апісання варта ўзяць дзве вытрымкі: „Kronika hipaciejowska pod r. 6764 (1256) dochowała nazwy wsi ich, które mają charakterystyczne końcówki po litewsku: Komaty (zapewne uroczysko Kumat w pow. brańskim, gub. grodzieńskiej, na folw. Kiersznówka)” i „R. 1264 pokonały wojska krakowskie Jadźwingów, i ich wodza Komata położyły trupem”. У Браньску на цэнтральнай плошчы горада стаіць помнік, на якім красуецца надпіс: „Zwycięstwo wojsk księcia Bolesława nad Jaćwingami Komata 1264”. Варта звярнуць увагу на дату, бо з дзвюх альтэрнатываў узята „больш правільная” з нейкага польскага летапісу, хаця апошнія хронікі захапляюць чытача буйным багаццем неверагоднасцей. Але Браньск гэта ж Brańsk, дзе ўсё мае быць пастаўлена на правільнае калена... Нездарма ж папская була з 1246 года загадвала: „Dotąd panował w stro-

працяг ☞10

## Мёртвыя душы

Матуля памерла 28 год таму. Была ўладальніцай нерухомасці і на спісе лічылася падаткаплацельшчыкам. Старасці дажывала пры дачцэ. Па сабе не пакінула завяшчання наследнікам. Пасля смерці плацежныя ордэры выстаўляліся на яе імя. Належнасць разлічвала дачка. Зараз і яна памерла.

— Хто ў такім выпадку павінен плаціць фінансавыя належнасці — падаходны падатак, страхоўку? — пытаю ў гміне.

— Калі справы спадчыны неўрэгуляваныя, — паясняе скарбнік Мірaслава Кандрацкая-Найбук, — абавязак разлічваць фінансавыя належнасці спачывае на кватаранту, значыцца, на тым, хто там пражывае. У такім выпадку мы выстаўляем плацежны ордэр на імя ўладальніка нерухомасці, а ў прыпісцы значым прозвішча карыстальніка.

— Гэта нелагічна, каб на памерлых выстаўляць ордэры, — прад’яўляю заўвагу. — Разлічваць трэба жывых, а не памерлых....

— Такі закон, — канстатуе мая субяседніца. — Мы не можам перанесці права ўласнасці на іншую асобу. Гэта можа зрабіць суд. Па памерлых права на спадчыну належыцца па роўнай частцы сямейнікам, дзецям і мужу. Калі нехта з іх памірае, дык ягоная частка прызначаецца да падзелу адпаведна ягоным спадчыннікам...

— А калі права на спадчыну неўпарадкаванае і карыстальнік невядомы або ўхіляецца ад плацяжу грашовых абязацельстваў, што тады?...

У такім выпадку прыводзім у рух працэдуры вызначаныя законам...

Закон — законам, а жыццё карыстаецца сваімі прынцыпамі. Ёсць шмат хітруноў, якія карыстаюцца маёнткам памерлых, а не плацяць належнасці дзяржаве. І тут сабака зарыты. Дзяржава на гэтым траціць. А ў крызісе лічыцца кожная залатоўка. На маю думку, закон трэба адмяніць. Калі сямейнікі не прэтэндуюць на спадчыну пасля смерці ўладальніка, маёмасць павінна пераняць дзяржава. Я так бачу гэтую справу.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Незалежнае гучанне па-над межамі

З 25 лютага па 1 сакавіка ў Беластоку будзе праходзіць „Фестываль незалежнай культуры”. У рамках фестывалю 27 лютага ў студыі Беларускага Радыё Рацыя а 20.15 адбудзецца канцэрт, падчас якога выканаўцы польскай і беларускай андэграўндавай сцэны (Роберт Пернікоўскі і I/DEX) выкінуць у „жывы” эфір Беларускага Радыё Рацыя (98,1 і 99,2 FM) дозу незалежнай музыкі, якая пабудуе масты па-над межамі.

Беларускі мастак I/DEX (Віталі) любіць „шум з радыё, вінілавае храбусценне, закінутыя месцы, Балтыйскае мора, кіберпанк, авалы, сінусоіды, глюкі і савецкія сінтэзатары”. Музыка, якую прапануе I/DEX, ачышчае энергетычныя каналы і стварае пазітыўны настрой.

Роберт Пернікоўскі з’яўляецца лідарам і вакалістам польскага гурту „Напшыклат”. Апрача таго ён займаецца сольнай творчасцю, супрацоўнічае з музыкамі з Чэхіі, Японіі, ЗША і бярэ ўдзел у розных міжнародных фестывалях.

**Радыё РАЦЫЯ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Нацыянальная дыктоўка — мудрая гульня!

Дзень роднай мовы, які адзначаем 21 лютага, асабліваe свята. У ім прымаюць удзел усе тыя, якія любоў да роднай мовы выказваюць павагай для культуры пісанага слова. Дыктоўку пішуць у цэлым свеце дарослыя і дзеці. Да гэтай пары ў Беластоку гэты выклік паднялі студэнты паланістыкі і вядомыя людзі свету культуры і палітыкі.

— Я кожны год пішу нацыянальную дыктоўку, бо гэта мудрая гульня, — сказаў для беластоцкага тэлебачання Анджэй Ляхоўскі, дырэктар Падляшскага музея.

Мова тут пра польскую дыктоўку, якую ўжо некалькі гадоў арганізуюць ва Універсітэце ў Беластоку. У бягучым годзе беларусы таксама пастараліся. Па прапанове Іаанны Марко, настаўніцы беларускай мовы ў Непублічнай школе свсв. Кірылы і Мяфодзія пісалі дыктоўку вучні. На прапанову настаўніцы адгукнулася палова школы.









— Як Вам удалося заахвоціць дзяцей да такой складанай гульні? — пытаем у Іаанны Марко.

— А ведаеце, я толькі раз спытала хто хоча пісаць дыктоўку. І яны адразу захапіліся. Высветлілася, што пісаць будзе аж трыццаць дзяцей — з другога па шосты класы. Гэта больш чым палова тых, хто ходзіць на беларускую мову. Бо ў першым класе я не пыталася, яны яшчэ не ведаюць літарак.

Наймалодшыя, дзеці II-III класаў пісалі дыктоўку паводле апавядання Васіля Віткі „Твой род, твая Радзіма”. Дзеці вельмі перажывалі ўдзельніцтва. Адзін вучань, які не паспеў запісаць на час тэксту дыктоўкі, расплакаўся. Кожны, хто не паспяваў — а гэта былі найперш другакласнікі, якія толькі што вывучылі літаркі — пасля напісання маглі папоўніць прабелы. У правядзенні дыктоўкі настаўніцы дапамагалі журналісты — Ганна Кандрацюк і Міра Лукша з „Нівы” ды Вадзім Батура з Радыё Рацыя. Паколькі малодшыя дзеці гаварылі пра складанасць задачы, старэйшыя толькі пацiскалі плячыма і хваліліся:

— *Латвізна!*

Якраз вучні IV-VI класаў пісалі паводле апавядання „Родная зямля” Рыгора Ігнаценкі. На другі дзень мы сустрэліся яшчэ раз, каб падвесці вынікі святочнай дыктоўкі. Сярод наймалодшых перамагла **Аляксандра Федарук**, другая была **Марыся Савіцкая**, на трэцім месцы апынуўся **Сяргей Раманюк**. Спецыяльную ўзнагароду камісія прысвоіла **Аляксандры Паўлючук** з II класа:

— Оля так добра напісала дыктоўку як яе сябры з трэцяга класа, а яна толькі што вывучыла літаркі, — адзначыла настаўніца Іаанна Марко.

Сярод вучняў IV-VI класаў перамагла **Эмілія Міхалёва**, другі быў **Матвей Навумюк**, трэцяя — **Аляксандра Салавянюк**. Лаўрэаты атрымалі беларускія граматы і кніжныя ўзнагароды, а пераможцы — гадавую падпіску на „Ніву”, якая ўзяла медыйны патранат над мерапрыемствам.

У пятніцу, 22 лютага г.г., у праваслаўнай школе святкавалі таксама поспехі ў прадметным конкурсе па беларускай мове. Усе шэсць фіналістаў сталі лаўрэатамі: **Зузанна Кардзюкевіч, Вераніка Кардзюкевіч, Клаўдзія Галінская, Міхась Сахарчук, Дамініка Благушэўская, Аляксандр Анхімюк.**

— Я вельмі люблю беларускую мову, — кажа шасцікласнік Міхась Сахарчук, — таму вельмі цешуся, што ўдалося стаць лаўрэатам. Мне дапамагалі настаўніца і бацькі. Усе вельмі перажывалі і мяне падтрымоўвалі...

— А скажы, Міхась, нейкі беларускі твор Табе асабліва запамятаўся?

— Так, гэта „Спадчына” Янкі Купалы.

**ЗОРКА**

**Фота ГАННЫ КАНДРАЦЮК**



# Конкурс пра зіму (9)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Як беларусы называюць апошні тыдзень карнавалу?**

а) карагодны тыдзень,

б) запусты,

в) масленіца.

**2. Хто першы лаўрэат (сярод вучняў) Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы за 2012 год?**

а) Лукаш Марчук з Нараўкі,

б) Ясь Каліноўскі з Беластока,

в) Міхась Сахарчук з Аўгустова.

**3. У якой беластоцкай школе была праведзена беларуская дыктоўка?**

а) у НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія,

б) у ПШ № 4,

в) у Гімназіі № 7.

Адказы дасылайце да 17 сакавіка 2013 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас «Зоркі»). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 5:** 1—150-я гадавіна Паўстання 1863 г. (а); 2 — на Беласточчыне ў Мастаўлянах (б); 3 — Міра Лукша (б).

Узнагароды — CD — выйгралі Міколка Варанчук, Крыстыян Красько з Арэшкава, Наталля Аўласюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Патрыцыя Бядрыцкая з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Вершы Віктара Шведа

## Бацька мой самы вялікі

Дзеткі ў школе так папросту
Хваляцца бацькоўскім ростам:
— А мой бацька наяву
Вышэй твайго на галаву.

— А мой, — кажа Анджэліка, —
Ад усіх самы вялікі.
На калені мусіць стаць,
Каб з галоўкі шапку зняць.

## Марыць спаць у акулярах

Збылася ўрэшце Яся мара,
Бацькі купілі акуляры.
Слабыя мае хлопец вочы
І акуляраў зняць не хоча.

Матуля просіць: — Хіба ў ложак
Зняць акуляры свае можаш?
А Ясь матулі растлумачыў:
— Я сон хачу лепей убачыць.

# Гайнаўка ў „Ніве”, 19 лютага г.г.




Адной з узнагарод у конкурсах, якія прыдумала „Зорка” нашым госцейкам з Гайнаўкі, быў турыстычны даведнік пра Беласток на беларускай мове. Нам было прыемна, што вучні з гайнаўскай „шасцёркі” ўключылі ў культурна-турыстычную вандроўку візіт у беларускую рэдакцыю. Перад гэтым яны наведалі Гістарычны музей і Еўрапейскі цэнтр мастацтваў, дзе паглядзелі оперу „Страшны двор”. Каб папоўніць уражанні ад спектакля, мы пагаварылі пра Станіслава Манюшку і раку Нёман, якая выцякае з балот ля Убеля, дзе нарадзіўся кампазітар. У яго спадчыне многа твораў на беларускія тэмы. Варта ўспомніць пра творчае сяброўства з беларускім пісьменнікам Вікенціем Дунінам-Марцінкевічам, які напісаў Манюшку лібрэта да оперы „Ідылія”.

— А ці ведаеце імя аўтара, які піша ў „Зорку”? — спыталі мы. У адказ нашы сябры назвалі асобу Сакрата Яновіча. Пісьменнік памёр два дні раней, на 77-м годзе жыцця.

Сакрат Яновіч любіў паўтараць што *„Ніва” — гэта дадатак да „Зоркі”*. З вялікай увагай ён сачыў за дэбютамі дзяцей і моладзі і многім, якія ўразілі індывідуальнасцю, ён пісаў цёплыя лісты і дасылаў добрыя кнігі. Мала хто ў нас ведае, што ў пачатку 60-х гадоў XX стагоддзя ён нейкі час быў рэдактарам „Зоркі”.

Спецыяльна для госцейкаў Міра Лукша прачытала вершы з цыкла „Жывінкі з глыбінкі”. Усіх чамусьці захапіў „Мядзведзь з Медзвядзёў”. Можа таму, што гэты звер зноў будзе жыць у Белавежскай пушчы, пакуль на беларускім баку.

**Фота Г. Кандрацюк і М. Лукшы**

## Коцік

Уля МАРЧУК

*Падарыў мне тата коціка.*
*Маленькі, шэранькі,*
*з белым вушкам.*
*Я з ім часта гуляла*
*і есці яму давала.*
*— Які коцік харошы! —*
*сябры мне гаварылі*
*і часта нагуляць з ім*
*зайсёды ўсе хацелі.*
*Я была рада,*
*што яго палюбілі*
*і красу майго коціка хвалілі.*



фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Вершы і спрэчкі

Улька Марчук, вучаніца пятага класа ПШ у Нараўцы, атрымала вылучэнне ў Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Журы прыкмеціла шчырыя рыфмаванкі пра коціка, школу і любімую пару года — вясну. Улька працавала самастойна. Мы спыталі ці меў тут дачыненне яе старэйшы брат Лукаш, які сёлета стаў першым лаўрэатам таго ж конкурсу:

— Не, — чуем у адказ, — ён хутчэй мяне б знеахвоціў...

— А чаму так говорыш?

— Бо ён усё сядзіць за камп'ютарам і не дазваляе мне даступіцца да экрана... З-за гэтага ў нас часта спрэчкі!

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Ультрападзеі



Фота Ілоны КАРПЮК

У цяперашнім свеце маем неверагодную колькасць усялякага роду конкурсаў і прэмій. Датычыць гэта таксама музыкі, якой стварaецца таксама неверагодна многа. Таму маем конкурсы сусветныя, еўрапейскія, але таксама лакальныя — дзяржаўныя або рэгіянальныя. Трэба аднак сказаць, што чакаць аб'ектыўнасці ў іх немагчыма — ці гэта будуць самыя значныя прэміі *Grammy*, ці вынікі года паводле чытачоў музычнай газеты, ці рэйтынг музычнага партала. Заўсёды гэта будзе вынік густу або погляду журы. Не адмаўляю права публікі на галасаванне і нават разумею, што такія зараз часы, што публіка карыстаецца эсэмэскамі, інтэрнэтам, галасуе, плаціць грошы і таму вялікая ўвага адводзіцца яе рашэнням. Аднак неяк прыкра становіцца, што такая тэндэнцыя паяўляецца ва ўсіх вакальных ці музычных конкурсах. Усё ж такі рашэнне прафесійнага журы заўсёды было вялікім штуршком і для маладых, і для больш сталых ды вопытных артыстаў. Вядома, тады, калі журы працуе не дзеля шоў, а дзеля мастацкага развіцця.

Хачу падзяліцца конкурсным поспехам. Факт, гэта быў конкурс лакальны, але беларускі. У Беларусі шмат прэмій няма. „Ultra-Music Awards 2012” — прэмія партала ultra-music.com — паказвае на самыя вялікія прарывы году ў галіне музычнай ды беларускамоўнай культуры. Не павінна здзіўляць, што *Адкрыццём года* стала Паліна Рэспубліка, дзяўчына, якая спявала ўжо на шматлікіх сцэнах і на сцэне адзначыла васемнаццатую гадавіну з дня нараджэння (!). Варта дадаць, што яе беларуская кар'ера пачалася з перамогі на фестывалі *Бардаўская восень*. Сярод вылучаных апынуліся гурты „Акутэ”, „Серебряная свадьба”, „Ляпіс Трубяцкой” і „Plum Bum”. Яшчэ два словы пра *Падзею года*. Лаўрэатам прэміі „Ultra-Music Awards 2012” у гэтай намінацыі стала серыя канцэртаў, у час якіх прэзентаваны быў праект агучэння беларускага нямога кіно „Тузін. Немаўля”. Праект рэалізаваны быў у Беластоку і Менску, а падрыхтавалі яго Падляшская опера і філармонія ды музычны партал „Тузін Гітоў”. Фільмы агучылі гурты „Re1ikt” і „Ilo&friends” ды Сяргей Пукст. Шматбаковы, цікавы праект, які здзяйсняўся ў рамках польска-беларускага супрацоўніцтва, тым больш карысны, што яго дацанілі ды вылучылі.

**i_basovka@o2.pl**

# Польска-беларуская крыжаванка № 9

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 5: Дуб, яслі, ах, манера, манета, мы, шар, ткач, на, тыгр, зубр, наш. Аб'ява, дух, ну, маштаб, ранак, нерт, свет, ліра, га, Ірa, марш.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Іаанна Лукша, Аня Бляўская** з Нараўкі, **Якуб Голец, Тамаш Федарук, Габрыела Торка, Марыся Сіроцкая** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, **Клаўдзія Яканюк, Дамініка Асташэўская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ

## МЁРТВЫЯ РУІНЫ

*По дарозе жыцця многа мёртвых руін*
*Я пабачыў, прайшоў і прабег паміж імі,*
*І астаўся ва мне аб іх розны ўспамін,*
*Быццам я развітаўся з сябрамі жывымі.*

*У вайну я глядзеў на пажараў агні,*
*Як навокал гарэлі дамы і палацы,*
*Як тырчэлі іх сцены пасля, быццам пні,*
*Як смяяліся вочніцы іх, як паяцы.*

*І я доўгі час жыў паміж мёртвых руін*
*І быў сведкам, як куксы змяняліся ў блокі,*
*Вырасталі з руін светлы дом, магазін,*
*Ці кварталы будынкаў прыгожых, высокіх.*

*З кожным годам змяняла аблічча свае*
*Між руін на вачах маіх горад Варшава,*
*Не забуду ніколі я раны яе*
*Па жахлівых крывавых нямецкіх расправах.*

*Я руіны Акропаля бачыў калісь*
*Як стаялі вясёлыя карыятыды,*
*І многа руін, дзе жылі каралі,*
*На пустыні егіпецкія піраміды.*

*Іх руіны былі вартавымі крыніц*
*Старадаўніх падзей у эліт нашых продкаў,*
*Захавалі ў сабе акіян таямніц,*
*І яны для гісторыкаў будуць загвоздкай.*

*Я сумую, як бачу руіны ўсіх хат,*
*Што стаяць на Падляшшы ў пустых*
*бедных сёлах,*
*Астаецца старэч больш, жывых*
*там няшмат*
*Зарастаюць бярэзнікам вёскі наўкола.*

## БЕСПРЫТУЛЬНЫЯ ДЗЕЦІ

*Дыктатара з дзецьмі паказвалі часта*
*На сценах будынкаў, не раз у кіно,*
*Ад іх ён прымаў у крамлі, быццам пастар,*
*Букет пекных кветак у зале з пано.*

*Яны там стаялі ў прыгожым адзенні,*
*Хлапец і дзяўчына з касой на плячах,*
*Букет уручалі яму ў захапленні,*
*А ён у мундзіры меў іскры ў вачах.*

*У той час я бачыў у цёмных падвалах,*
*Там сотні малых беспрытульных дзяцей,*
*Якія па вуліцы беглі няўдала,*
*Прасілі капейку на хлеб у людзей.*

*Бацькі іх памерлі даўно ў час блакады,*
*Ці згінулі дзесьці на фронце вайны,*
*Стварылі сіроты ў падвалах брыгады,*
*І так пражылі тры зімы і вясны.*

*І раптам дыктатар загад даў кур'ёзны.*
*У лагеры ўзяць беспрытульных дзяцей,*
*Каб там паміралі яны ў месцах грозных,*
*За дротам у тундрах здалёк ад людзей.*

*Іх многа ў тайзе паміралa ад працы,*
*Капаючы золата і серабро,*
*У той час дыктатар прымаў у палацы*
*Дзяцей вельмі блізкіх партыйных сяброў.*

*Іх здымкі паказваў на сценах будынкаў,*
*А іншых мільёны ўмірала ў тайзе.*
*Змушаў, каб яму танцавалі лезгінку,*
*Яго ўсе міністры ў крамлі па чарзе.*

# Холад пустога кабінета

Смерць выдатнага папулярызатара беларускай думкі і слова Сакрата Яновіча выклікала боль у сэрцах многіх сімпатыкаў яго творчасці ў краіне і за яе межамі. Спадар Сакрат быў чалавекам надзвычай харызматычным, верным сваім прынцыпам да апошніх хвілін жыцця. Здабываў прыхільнікаў не толькі майстэрскім пяром і эрудыцыяй, але і звычайнай шчырасцю і непасрэднасцю. Яго адыход асабліва глыбока параніў сэрца **Мартыны Маршалак** — сціплай, маладой жанчыны з Крынак. На працягу апошніх чатырох гадоў была яна анёлам-ахоўнікам спадара Сакрата і яго жонкі Тацяны. Менавіта з ёю славуты літаратар правёў апошнія на гэтай зямлі хвіліны радасці і суму. Спадарыня Мартына пагадзілася падзяліцца з чытачамі „Нівы" ўспамінамі пра дні і ночы, праведзеныя ў доме славутага літаратара.



Фота Віктара Волкава

*— Спадарыня Мартына, распавядзіце, калі ласка, пра пачаткі і характар Вашых адносін з выдатным пісьменнікам з Крынак.*

— Мая сям'я доўгія гады паспяхова супрацоўнічала са спадаром Сакратам. У маёй бацькоўскай хаце ў Лапічах ладзіліся амаль усе выпускі славутых Сакратавых Трыялогаў. Канешне, я таксама дапамагала абслугоўваць гэтае мерапрыемства. Вельмі люблю кантакт з людзьмі, асабліва са старэйшымі. Добра таксама адчуваю сябе ў кухні і ў іншых гаспадарскіх працах. Прапанову дапамагаць спадару Сакрату ў вядзенні хатніх абавязкаў я прыняла з сапраўдным задавальненнем. Думаю, што асновай нашых суадносін было шчырае сяброўства. Спадар Сакрат успрымаў мяне як родную ўнучку. Заўсёды можна было з ім пагаварыць. З вялікай прыемнасцю слухала я яго доўгіх аповедаў пра даўнія часы, гісторыі яго жыцця, цікавыя сустрэчы. Часта згадваў сваіх бацькоў і дзяцей. З сімпатыяй успамінаю моманты, калі спадар Сакрат дорыў мне кветкі ці проста частаваў кілішачкам добрага віна. Ніколі не шкадаваў слоў падзякі. Адначасова ведаў, што і я пра яго думаю і клапачуся. Гэта быў гарманічны сімбіёз, ад якога была супольная карысць. Бывала між намі і рознагалоссе ў поглядах на жыццё, але я ніколі з ім не сварылася. Сакрат не любіў супрацьву і я гэта шанавала. Сумаваў, калі сітуацыя выходзіла з-пад яго кантролю ці планаў. Усё ж такі ён быў вельмі добрым чалавекам. Нават будучы ў шпіталі, званіў і пытаўся ці ўсё ў нас у парадку, ці чаго не патрабуем. Цэлы час пра нас думаў.

*— Ці можаце выявіць, чым былі запоўнены звычайныя, крынскія дні спадара Сакрата?*

— Любіў паспаць, прачынаўся не раней як у дзесяць раніцы. Зразу браўся за карэспандэнцыю, якая ў вялікай колькасці напływала з усяго свету. Абавязковым быў таксама пераглед беларускай і польскай перыёдыкі. Шмат часу прысвячаў рэдагаванню свайго штогодніка „Annus Albaruthenicus". Уваходзячы ў хату, найчасцей можна было яго ўбачыць у кабінеце, стукаючага ў клавіятуру пішучай машынкі. А яшчэ любіў вялікае кабінетнае крэсла, седзячы ў якім, з цыгарэтай, вёў свае аповеды і размовы. Ноччу часта глядзеў кіно, у асноўным гістарычнае.

*— Вы таксама неслі адказнасць за кулінарную старану жыцця спадара Сакрата. Раскажыце, калі ласка, якія стравы былі для Яго самымі любімымі?*

— Бульбяныя клёцкі ён мог спажываць кожны дзень, часта заказваў флячкі, боршч з вушкамі, рыбу і галёнку. На сняданак еў толькі кукурузныя шматкі.

*— Што, па-вашаму, прыносіла Яму самую вялікую радасць у жыцці?*

— Бясспрэчна — візіты сыноў. Ён таксама радаваўся, калі яго хату наведвала моладзь. Цешыўся нават непланаванымі, спантаннымі сустрэчамі. Заўсёды ўручаў гасцям падарункі — найчасцей свае кніжкі з аўтографам. Ніколі не адмаўляў у парадзе і дапамозе студэнтам, якія часта сюды прыязджалі на навуковыя кансультацыі. З ахвотай дзяліўся сваёй хатняй бібліятэкай. Выяўляў асаблівую лёгкасць у кантактах з маладым пакаленнем, захопленым яго аповедамі і пачуццём гумару. Амаль да апошніх дзён спадар Сакрат стараўся падтрымліваць сваю творчую актыўнасць. Ён нават абяцаў мне напісаць чарговую кніжку пра Крынкі.

Сапраўды, Ён моцна любіў свой родны кут, сваю хату, але дадзенага слова стрымаць не здолеў. У гэты раз кантроль над сітуацыяй пераняла смерць, уводзячы ў вілу па вуліцы Сакольскай нязносную пустату, холад і смутак па страце дарагога чалавека.

Гутарыла **Іаанна ЧАБАН**

Майму Настаўніку,
**Сакрату Яновічу.**

Нястомнаму расказчыку, прыгажосьць беларускага слова якога плыла з простай штодзённасьці падляшскага мястэчка, адданаму грамадзкаму дзеячу, які верыў, што просты народ некалі стане нацыяй, палітыку, які ўмеў нас, палякаў, захапіць беларускай справай...
Заўсёды будзеш у маёй памяці!
**Павал Казанэцкі**

# Дэбют 2012



Аліна ЛЕАНЕЎСКАЯ

## Адна душа

Калахаю цябе за кожную тваю ўсмешку, якой вітаеш мяне зрання і развітваешся ўвечары, засынаючы.

За кожны цёплы дотык тваіх рук, калі нашы далоні кранаюцца адна да адной выпадкова.

Люблю, калі туліш мяне ў сваіх абдымках і калышаш як малое дзіця. Тады ўсе турботы застаюцца дзесьці далёка. Тады мне так лёгка і бяспечна. Люблю, калі прыглядваешся да мяне, калі табе здаецца, што я гэтага не бачу. Цаню гэта, як клапоцішся за мяне. Ведаю нават, колькі пачуцця ў каве, якую мне падаеш на пачатак добрага дня.

Радуюся кожнай хвіліне, праведзенай з табою і тужу, калі няма цябе блізка.

Паміж намі ляжаць доўгія, нямыя гады. А мы чакалі, можа нават безнадзейна чакалі — чакалі адно аднаго не ведаючы?

І надышоў дзень, які неспадзявана здзейсніў сны.

Адна кароткая, нечаканая сустрэча збратала нашы сны, спалучыла думкі і мары.

Не ўмею ўжо жыць без цябе. Бо калі ты паявіўся ў маім жыцці, усё перакулілася дагары нагамі і ўсё набрала іншага сэнсу. Але ж кажуць, што калі нараджаецца чалавек, з неба злятае душа і распадваецца на дзве часткі... Адна з іх трапляе да жанчыны, другая да мужчыны. І ўсё жыццё заключаецца ў пошуках тае другое паловы... паловы сваёй душы, паловы сябе самога... Я цябе знайшла.

Нават калісь, мінаючы цябе па дарозе, я адчувала дзіўныя прадчуванні якіх не ўмела назваць. Можа гэта падсвядомасць падказвала мне: „Якраз мінаеш сваю палову душы"?

А цяпер, спаглядаючы ў мае вочы, можаш убачыць у іх самога сябе, бо напаўняеш мяне ўсю. Ты ў маім сэрцайку і не выпушчу з яго цябе.

І дзякую табе за тое, што навучыў мяне зноў веры ў самую сябе, пазітыўнага мыслення. Калі ты побач мяне, нічога мне больш не трэба. Я адчуваю сябе бясклапотна, бо ты даеш мне столькі радасці.

Я хацела б быць тваім сонцам і абаграваць цябе сваім каханнем. Маёй прагай з'яўляецца быць ля цябе ў кожную добрую хвіліну і ў кожную благую. Дзякую табе за тое, які ты ёсць, за тое, што выціраеш мае слёзы, калі мне кепска, і за тое, што смяешся разам са мною.

Дзякую табе за тое, што ты ёсць ...

## Пра дзядзьку Валодзю Гайдука

У Тарнопалі на Полымі жыў дзядзька Валодзя Гайдук. Худзенькі, невялікі, не стары яшчэ, а старэнькі. Меў хату вялікую, мураванку. Жыў адзін, не прыйшлося ажаніцца. Меў сястру і пляменніка, але жылі далёка, у горадзе, здаецца, у Слупску. Рэдка яго наведвалі.

Дзядзька Валодзя меў гаспадарку, адно сіл не было гаспадарыць. Грошай не было, а ўсё тыя КРУСы трэба было плаціць. Гадаваў кабылку, сена пратаў, меў да каго загаварыць.

Была зіма... сур'ёзная. Прыехала пані з Гміны паглядзець, што ў дзядзькі Валодзі, ці не замёрз. Дзядзька Валодзя не замёрз, адно кабылка падохла, плача Валодзя. На падворку бегаюць сабачкі, мусі з трое. Невялікія, шэрыя, худзенькія, такія як і дзядзька Валодзя. Брэшуць гучна, так як дзядзька Валодзя ў сваіх вершах пра ўсё і пра нішто.



Дачакаўся дзядзька Валодзя пенсіі, перапісаў гаспадарку на пляменніка, трохі грошай мае, але не цешаць яны. Няма для каго жыць. Сястра ўжо старая, цяжка ёй прыехаць, а хлопец не хоча ў вёску. Зіма, снег скрыпіць, у краму далёка, можа пойдзе заўтра, можа пацяплее. У хаце таксама холадна. Пані з Гміны прыехала, стала ёй вельмі сумна. Дзядзька такі самотны, успамінаў рэдакцыю, гаварыў, што летам прыязджалі, быў рады, успамінаў Міру і іншых.

Мінула пару тыдняў. Прыходзіць пані з Гміны на працу і чуе: „Валодзя Гайдук памёр".

Хварэў, нікому не казаў, здаецца, на запаленне лёгкіх. Не хацеў нікому сказаць. Забыўся пра невялікую пані Алінку з Гміны. Яна яго прасіла: „Званеце, заўсёды прыеду, памагу". Не ведала, не прыехала. А Валодзя памёр.



Славамір КУЛІК

## Толькі

Настала восень
Апошнія лісты на бярозе
Шэпчуць штосьці знаёма
У пустым агародзе
Завыў выйгрыш — вецер
На шэрасць палёў
Змяшала восень усе фарбы
Бедная птушка на адной ножцы
Хоча дачакаць вясны
А зіма надлятае
У цёмна-шэрых хмарах
Уціскаецца імглой-інеем
Паўзе, як змяя па лузе
Ногі самі нясуць у хату
Цёплая печ сагрэе як маці
А маці застыла ў летняй усмешцы
На сямейнай пажоўклай фатаграфіі
Толькі восень...
Толькі цішыня...

* * *

Вада з крыніц
Маіх крыніц
Смачнейшая чымсьці сто
Другіх вадзіц

У дзіцячых марах
Як на блакітных хмарах
Браджу па халоднай траве
Такой расы няма нідзе

Сонца лепшае над маёй краінай
Калі іду лясной далінай
Ох як пахне сасновы свет
Хачу дажыць тут старых лет.

* * *

Адчыняю сіняе аконца
Мой дом хапае сонца
Народны краявід
Няма прыгажэйшай дарожкі

Як лёгка бягуць ножкі
Бацькаўшчыны від
Устаў я ў дарозе
А мама на родным парозе

Будзіць у сэрцы спакой
Вярнуўся з далёкіх краёў
Мацней кружыць кроў
Радзіма калахаю цябе



Мартына Ева ЛЕАНЕЎСКАЯ

## Скажы мне

Скажы мне, бабулька,
ты пражыла гадоў так многа,
ці ведаеш, што ў жыцці
трэба пераждыць абавязкова?
Я б хацела параіцца,
каб блудоў не натвараць,
і дзень за днём з усмешкай
пакорліва прымаць.
І калі б прыйшла на мяне
гэтая пара,
магла б я сваім унучкам сказаць:
я шчаслівая жыла.

## У хатцы

На ўскраіне лесу стаяла хатка.
Жылі ў хатцы дзеткі, мама іх і татка.
У другой палове свякруха панавала,
якой любоў сына шчасця не давала.
Памёр татка дзецям, а маці ліхая
нявестку з унукамі ўпрочкі выганяе.
Пайшлі ў свет як стаялі, а ў пустое хаце
засталася старая ў злосці дажываці.

## Чалавек

Каго звяры шануюць, таго ў сваёй
звярынай мове добрым словам славяць,
за ім жывёлы ходзяць, бо ён іх шкадуе,
і свае сакрэтныя знакі ставяць за ім лапай.

5 ☞працяг

# Каля Браньска

nach waszych grecki obrządek po szkodliwem i zgubnem odstąpieniu od jedności kościoła z niebespieczeństwem dla dusz waszych. Świeżo, za łaską Najwyższego, oświeciły się wasze serca, przyznajecie kościół rzymski matką i nauczycielką wszystkich innych, a papieża namiestnikiem ś. Piotra, który odebrał klucze niebieskie do związywania i rozwiązywania wszystkiego”. (Даніловіч).

Пара вярнуцца да Комата. Віктар Асалінскі, уласнік маёнтка ў Рудцы, у 1848 годзе апублікаваў запіскі, дзе згадваецца легенда пра яцвяжскага героя. Варта пазнаёміцца з вытрымкамі з ягонай легенды: „W odległości półtorej mili od wiejskiej mej siedziby Rudki, o pół milki za miastem Brańskiem, leży uroczysko od XIII wieku z podania gminnego Kumat zwane, na gruncie folwarku skarbowego Kiersnówka. Wspomniane uroczysko składa się z mostu rzuconego przez błotnistą rzeczkę Bronkę, po którym ją w tym miejscu przebywa na wiorsty podzielony trakt Wielkim Wojennym zwany. Za mostem (...) wzgórek na prawo leżący, na szczycie którego odwiecznej mogiły ślad dawniej wyniosły, przed niemnogimi laty jeszcze znaczny, dziś coraz bardziej się zmniejsza działaniem sochy co rok weń się worującej. Wzgórek ten cały wewnątrz przepełniony składem zachowanych w nim grobowych popielnic według obrządku bałwochwalczego Jaćwingów w tym miejscu ubitych pod dowództwem Kumata, którego bohaterskie szczątki pod mogiłą na szczycie złożone, dziś jeszcze przewodzić, panować zdają się nad hufcem popiołów wraz z nim poległych wojowników. Stolicą ich było miasto Drohiczyn, odzyskane na książętach ruskich, poprzednio go dzierżących. Jaćwingi posiadłszy wtedy trzy obronne grody: Drohiczyn, Mielnik i Brańsk, przez książąt ruskich stosownie przygotowane, stali się Polsce przygranicznymi i zagrażającymi sąsiadami. Ciągłe wojenne utarczki i wzajemne z Polakami napady trapiły oba narody. Panujący u nas Bolesław V Wstydliwy, chcąc temu koniec na zawsze położyć, nakazuje pospolite ruszenie, ślubując nie złożyć oręża, póki Jaćwingów na wiarę chrześcijańską nie nawróci i w stołecznym ich Drohiczynie kościoła nie założy i w tymże nabożeństwa pod znakiem Zbawiciela nie wysłucha. Wyrusza w pole roku 1264. Bolesław przebył Bug wstępnym bojem o wschodzie słońca dnia 23 czerwca i po krwawym zwycięstwie zdobyto Drohiczyn, Mielnik i całe prawie Bugu wybrzeże. Poraźny Kumat, choć utracił stolicę, nie upada na duchu i kusi się powetować los bitew lub umrzeć bez poddania się obcej przemocy. Oparł się powtórnie Polakom za błotnistymi brzegami Nurca. Za zbliżaniem się Polaków w przemagającej sile od Buga i zdobytego Drohiczyna, Kumat na tyle roztropny wódz ile nieugięty wojownik, odsyła żony i dzieci tak własne jak i towarzyszów, wraz ze starcami nad brzegi Narwi, za błota suraskie w tyle mu leżące, a przy nich uniesione z Drohiczyna i Mielnika bożki i skarby, obejmujące wieloletnie Jaćwingów z Polski i Rusi zdobywane łupy;



gdy tymczasem piersiami swoimi i towarzyszów zasłania ich odwód, stając w obronie przepraw Nurca, a następnie Bronki. Chciwi zdobyczy tej Polacy, o uprowadzeniu której powzięli języka, cisną się dnia 24 czerwca w Nurca i Bronki wody, które przy dzielnym Jaćwingów oporze, obu narodów krew zarumieniła. Gdy rycerstwo nasze zwycięsko Nurzec przebyło, nieugięty Kumat cofać się począł w ciągłym boju ku Bronce, póki przy jej brzegu zewsząd obskoczony nie poległ wraz z wojownikami, nieodstępującymi od jego boku o zachodzie słońca w dniu uroczystym świętego Jana Chrzciciela roku 1264 na uroczysku odtąd Kumat zwanym. Po tym zwycięstwie oddział polski puścił się bezzwłocznie za uchodzącym taborem, dybiąc szczególnie na zdobycz uprowadzonych skarbów i niewiast. Próżne usiłowania! Dzielne niedobitki, dla ulżenia sobie odwodu, a przynajmniej dla nieoddania w ręce nieprzyjaciół tak drogiego łupu, zatopili raczej uniesione bożki i skarby w bezdennych dotąd błotach suraskich, a każdą niewiastę lub dziecię ustające na siłach zabijali, nic z nich żywego nie zostawiając brańcem dla zwycięzcy”.

Легенда жорсткая, бо ж інакш не была б яна хіба такой цікавай. Цікава, як да згаданых трафеяў ставіўся князь Баляслаў Сарамлівы, які атрымаў такую мянушку з-за таго, што яго сужонства, па рэлігійных матывах, з княгіняй Кінгай было цалкам платанічным. Ягоныя ж ваякі, „dybiąc szczególnie na zdobycz uprowadzonych niewiast”, мабыць таксама дзейнічалі па падобных матывах. Хіба ж не ён сам меў слухаць „nabożeństwa pod znakiem Zbawiciela”?..




Не часта можна сустрэць чалавека, якому была б не цікавая гісторыя ўласнага роду. За звесткі аб тым, кім былі і чым займаліся прадзеды, пра якіх, мабыць, і ніколі не ведаў, заможныя людзі гатовыя плаціць немалыя грошы, а састаўленне генеалагічнага дрэва лічыцца праявай своеасаблівай шляхетнасці, нават калі ў родзе нікога са шляхты і не было. Некаторыя апантаныя мінулым свайго роду самі бяруцца ствараць розпастайныя жыццяапісанні продкаў, а вынікі такой працы, здараецца, выкладваюць у інтэрнэце. З адным з такіх генеалагічных сайтаў мы можам пазнаёміцца сёння, калі набярэм інтэрнэт-адрас http://leszkiewicz.narod.ru.

„Запрашаю на старонку тых, хто мае прозвішча Ляшкевіч, а таксама ўсіх, каму пашчасціла быць звязанымі з прадстаўнікамі гэтага старажытнага шляхецкага роду кроўнымі або сяброўскімі стасункамі. Спадзяюся, што старонка будзе карыснай таксама тым, хто ўвогуле цікавіцца беларускай генеалогіяй”, — такімі словамі сустракае нас уладальнік сайта, які хоць адразу не прадставіўся, але пра якога адразу мы даведваемся, што мае ён прозвішча Ляшкевіч. На галоўнай старонцы сустракае нас таксама выява малога хлопца з керасінкай і старога дзеда ў кепцы, што, пэўна, сімвалізуе даўніну і будучыню данага роду.

Даведацца пра стваральніка генеалогіі роду Ляшкевічаў мы можам на старонцы „Аўтара!”, выйсце на якую знойдзем, клікнуўшы спачатку на „Уваход тут” і апынуўшыся на наступнай страронцы сайта. Завуць апантанага гісторыяй свайго роду Юрась і паходзіць ён з вёскі Альпень Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, але ўжо доўгі час жыве ў Мінску.

„Яшчэ ў школе пачаў цікавіцца гісторыяй сваёй вёскі і паходжаннем прозвішча. Пасля прыезду ў Мінск і навучання на журфаку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта гэтая цікавасць стала больш усвядомленай, і паступова захапленне генеалогіяй стала адным з галоўных хобі. Зараз у асабістай базе ёсць звесткі на некалькі тысяч носьбітаў прозвішча Ляшкевіч, якія жылі і зараз жывуць не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах свету”, — распавядае пра сябе Юрась Ляшкевіч.

Згодна пададзенай на сайце інфармацыі, аўтара цікавяць не толькі Ляшкевічы, але і Альпенскія, прозвішча якіх паходзіць ад назвы вёскі. Таксама ў зоне ўвагі Юрася Ляшкевіча прозвішча Зяновіч, што, па яго звестках, мае дачыненне да Зяновія Ляшкевіча, якому ў 1515 г. перайшла ва ўладанне вёска Альпень.

Што тычыцца прозвішча Ляшкевіч, то яно, паводле аўтара сайта, ёсць беларускім, якое ўтворана шляхам дабаўлення да карэннай асновы суфікса -віч. „Такі тып прозвішчаў дастаткова распаўсюджаны ў цэнтральнай і заходняй Беларусі, а таксама на тэрыторыі сучаснай Польшчы”, — сцвярджае Юрась.

Цікавую інфармацыю знойдзем на старонцы „Наша супольнасць”. Там распавядаецца аб розных Ляшкевічах, якія жывуць у самых розных кутках свету. Цікавымі падаюцца словы аднаго варшаўскага Ляшкевіча, які захапляецца старымі чорна-белымі фотаздымкамі. „Ten czarno-biały świat wydawał się bardziej kolorowy, spokojniejszy, bezpieczniejszy. Bez komórek, internetu, komputerów, narkotyków, bezrobocia, mafii, „wyścigu szczurów” i słowa k... na ustach”, — піша ён, несвядома паказваючы, як чалавечая памяць упрыгожвае даўно мінулыя гады.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Трагедыя міністра БНР

# 125 гадоў з дня нараджэння Яфіма Бялевіча

27 лютага 1888 г. у Мінску нарадзіўся Яфім Бялевіч, дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Пачатковую адукацыю ён атрымаў у мінскай гімназіі, з якой быў у 1907 г. выключаны за ўдзел у вучнёўскіх пратэстах, за што не ўдалося пазбегнуць і арышту. Неўзабаве Бялевіч быў вызвалены, гімназію ён скончыў экстэрнам. Пасля гэтага паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, які скончыў у 1912 г.

З надыходам Першай сусветнай вайны Яфім Бялевіч быў прызваны ў войска, ваяваў на фронце ў чыне прапаршчыка, а пасля штабс-капітана. У гэты час адбываецца фармаванне нацыянальнага светагляду асобы. У 1917 г. Бялевіч ад беларусаў-вайскоўцаў быў абраны дэлегатам Першага Усебеларускага кангрэса, які адбыўся ў снежні. Пасля абвяшчэння БНР Бялевіч займаў пасаду міністра юстыцыі і фінансаў у Народным сакратарыяце — першым урадзе абвешчанай дзяржавы. У выніку палітычных разыходжанняў ва ўрадзе зышоў у адстаўку. У чэрвені 1918 г. для ўрэгулявання бежанскага пытання накіроўваўся ў Петраград, Маскву, Віцебск і Смаленск. Пасля быў дыпламатычным прадстаўніком урада БНР у Кіеве, Адэсе, Берліне. У 1919 г. быў арыштаваны тагачаснай польскай уладай, але здолеў збегчы з-пад варты. У гэты час Бялевіч відавочна „пахіснуўся” ўлева — ён быў сябрам партыі сацыялістаў-федэралістаў, пазней — Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З апошняй ён выйшаў у жніўні 1920 г. з-за адмовы лідараў падпісаць Дэкларацыю пра абвяшчэнне незалежнасці БССР. Далей два гады служыў у Гомелі ў чыгуначных частках Чырвонай Арміі. Аднак саветы не даравалі Бялевічу яго ўдзелу ў стварэнні БНР. У кастрычніку 1920 г. ён быў арыштаваны асобым аддзелам Заходняга фронту па „падазрэнні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці”. Праз шэсць месяцаў быў вызвалены. Далей працаваў у сістэме фінансаў, цягам 1925-1930 гг. займаў пасаду ўпаўнаважанага Народнага камісарыята фінансаў БССР, яшчэ пазней быў на працы ў Белшвейаддзяленні Вышэйнага савета народнай гаспадаркі.

Сталінскія рэпрэсіі не маглі абмінуць асобу з мінулым бээнэраўскага дзеяча. У сакавіку 1932 г. Яфім Бялевіч быў арыштаваны, засуджаны да пяці гадоў зняволення ў савецкім канцлагеры і этапаваны ў Свірскі канцлагер НКВД Ленінградскай вобласці. Ужо там праз чатыры гады быў узяты пад варту. Ленінградскім судом засуджаны яшчэ да 5 гадоў зняволення і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Доўгі час невядома было дзе і калі загінуў Яфім Бялевіч. Калі адчыніліся архівы, даследчыкі ўстанавілі, што загінуў ён 13 снежня 1942 г. у Магаданскім канцлагеры. Многімі гадамі пазней быў па першым прысудзе рэабілітаваны ў 1963 г. прэзідыумам Мінскага абласнога суда, а па другім — пракуратурай Расейскай федэрацыі ў 1992 г.

Лёс Яфіма Бялевіча склаўся не зусім тыпова сярод айцоў БНР. Адны з іх пастанавілі і паспелі з’ехаць на эміграцыю, папрацавалі плённа там на беларускую справу, іншыя — адразу былі вызначаны як „ворагі народа” і загінулі. Цяжка сказаць, ці Яфім Бялевіч сапраўды шчыра паверыў савецкай уладзе, ці спрабаваў нейкім чынам прыстасавацца да яе, але шанцаў выжыць у той сістэме ў яго не было.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Вечар паэзіі ў Ляўкове



Злева: Тадэвуш Кунцэвіч з Лешукоў, Вера Радзіванюк з Міхнаўкі,Канстанцін Целушэцкі з Новага Ляўкова

У прыгожай Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) жывуць людзі, якія пішуць вершы і апавяданні, але пра гэта не расказваюць. Пра іх мала хто ведаў. Можа толькі сямейнікі або суседзі. Дык вось разведалі пра іх кіраўнічка святліцы ў Старым Ляўкове Галена-Марыёля Рэент і старшыня Таварыства „Ятрышнік” Альжбета Кунцэвіч. 1 лютага г.г. у святліцы яны сарганізавалі аўтарскую сустрэчу Веры Радзіванюк з Міхнаўкі, Канстанціну Целушэцкаму з Новага Ляўкова і Тадэвушу Кунцэвічу з Лешукоў. Запрасілі на мерапрыемства тэле- і радыёжурналістаў. На вечарыну прыйшлі дзеці, моладзь і дарослыя. Сустрэча прайшла пры свечках ды з пачастункам.

Першай выступіла Вера Радзіванюк. Яна хвалявалася. Вядома ж, гэта была яе першая сустрэча са слухачамі. Прачытала вершы прымеркаваныя да чатырох пор года: „Майскія туманы”, „Канец лета”, „Бабіна лета”, „Восень”, а таксама „Бярозкі”, „Арабіна” ды вершы пра праміналне.

Канстанцін Целушэцкі пазнаёміў прысутных са сваімі вершамі, між іншым, „Вясна”, „Бярозка і дуб”, „Дзяўчына”, „Жніво” і „Жорны” ды пра стараляўкоўскі керамічны завод, а таксама з вершыкамі для дзяцей. Спадар Кастусь сказаў на заканчэнне свайго выступлення, што каб напісаць верш, яму патрэбнае натхненне.

Тадэвуш Кунцэвіч мае ўжо свой першы зборнічак вершаў „Падляшша — мая старонка”, выдадзены Таварыствам „Ятрышнік”. Ляшуцкі паэт чытаў вершы рэфлексіўнага і сатырычнага характару. У Т. Кунцэвіча ёсць таксама творы, якія напісаў на заказ, напрыклад, на Дзень настаўніка і на Дзень жанчын. „Я тое, аб чым хачу напісаць, лепш адчуваю, калі раблю гэта па-беларуску”, — сказаў спадар Кунцэвіч.

Паэтам з Нараўчанскай гміны жадаем поспехаў на літаратурнай ніве.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

4 ☞ працяг

# Гэта яшчэ не скончылася?

ў аператыўнай працы органаў бяспекі ці перадаваў органам бяспекі тагачаснай дзяржавы нейкія інфармацыі ў вымярэнні парушэння правоў чалавека і свабоды грамадзяніна.

Суддзя дадаў:

— Памятаеце гістарычную праўду аб тым, што дзеянні былой СБ часта выходзяць далёка за межы закону, у тым ліку і са злачыннымі паводзінамі, што ўплывала на маральнае і этычнае стаўленне па крайняй меры некаторых з часткі гэтых функцыянераў.

На думку суда, пад сумненнем знаходзіцца верагоднасць паказанняў супрацоўнікаў СБ і выклікае шмат «не даючыхся пазбыцца сумненняў». Як падкрэсліў суддзя Валосік, ніхто з іх адназначна не пацвердзіў сакрэтнага і свядомага супрацоўніцтва дэпутата, хаця некаторыя дапускалі такую магчымасць, і нават сцвярджалі, што гэтак было. Пасведчанні аднаго з функцыянераў старшыня назваў «мудрагелістымі, крывадушнымі і супярэчваючымі адзін аднаму»:

— У святле такіх дадзеных можна выказаць здагадку, што паказаная дакументацыя, у тым ліку знішчаная, была фіктыўнай, створанай для дасягнення кароткатэрміновых выгод для асобы яе падрыхтоўваючай, значыць, з’яўляецца гэта матэрыялам для дэманстрацыі дасягненняў у працы (...). На тое, каб даць веру, заслугоўваюць толькі фрагменты паказанняў некаторых функцыянераў, у якіх яны апісваюць свае задачы, як правіла, у рамках працы ў СБ у Беластоку.

Суд не выключыў, што, як гэта было ў іншых люстрацыйных працэсах у Польшчы, і тут, магчыма, была выдуманая рэгістрацыя Яўгена Чыквіна ў якасці сакрэтнага супрацоўніка, а аб тайнасці ягоных сустрэч з функцыянерамі СБ не можа быць гаворкі.

Канчаючы чытанне заключнага абгрунтавання прысуду, суддзя Валосік пстрыкнуў пракурорку ІНП па носе:

— Трэба моцна падкрэсліць, што ў люстрацыйным працэсе адзіны шлях да матэрыяльнай ісціны гэта даследаванне рэчыўных доказаў, якія не могуць быць замененыя на здагадкі, меркаванні ці надзейна непацверджаныя абставіны проста таму, што ў сувязі з цягам часу і знішчэннем дакументаў некаторыя падзеі не могуць быць узноўленымі.

Яўгена Чыквіна і яго адваката не было падчас чытання прысуду, які не з’яўляецца канчатковым, і, такім чынам, бакі маюць права зноў апеляваць. Пракурор Русіловіч сказала ў канцы працэсу, у гутарцы з журналістамі:

— Гэты працэс не быў ні простым, ні ясным. Вядома, мы прымаем рашэнне суда з пакорай. Пастановы суда, вядома, не абмяркоўваюцца. Тым не менш, мы не згодныя з ацэнкай доказаў судом. Пасля атрымання пісьмовай заявы аб прычынах, мы будзем думаць аб падрыхтоўцы апеляцыі.

Такім чынам, усё паказвае на тое, што працяг разгляду справы аб люстрацыйнай хлусні Яўгена Чыквіна будзе працягвацца і, ставіўшы пытанне ў цэлым, увойдзе ён ужо ў трэцюю дэкаду.

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — турэцкую пагаворку.

1. цераз сілу і ён не пацягне = 19 _ 3 _ 4 _ 25 _;
2. адзінка вымярэння = 9 _ 11 _ 7 _ 10 _;
3. „наш” у адзіночным ліку = 22 _ 17 _ 18 _;
4. „я” ў множным ліку = 26 _ 27 _;
5. пчаліная сям’я = 21 _ 20 _ 30 _;
6. далікатнасць, пачуццё меры ў паводзінах = 14 _ 13 _ 12 _ 6 _;
7. індаеўрапейскае племя, што пражывала ў Малой Азіі ў III і II тысячагоддзі да н.э. = 1 _ 5 _ 2 _ 8 _;
8. псеўданім югаслаўскага прэзідэнта Іосіфа Броза = 24 _ 23 _ 16 _ 15 _;
9. горад на поўдні Люксембурга = 29 _ 28 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| | | | | | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 4 нумара**

Цэп, бляск, кіт, качарга, Коўна, тэалогія, Бася, трамвай, нары, рай, Аліта, кава, рыванол, вапна, пяро, Орша, стратэг, готыка.

Рашэнне: **Палітыка гэта бяскроўная вайна, а вайна гэта крывавая палітыка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 03.03 — 09.03

**(22.03. — 20.04.)** Усе твае стараннi не прападуць дарам. Любая рызыка цяпер прынясе пазітыўны рэзультат, добры на будучыню. Ды гавары ціха: навокал лішне цікаўных людзей. Райся ў сваёй інтуіцыі і фантазіі. У панядзелак могуць адбыцца нейкія падзеі, якія варта абдумаць. У сераду можаш пазнаёміцца з чалавекам, дзякуючы якому будзеш мець прыемнасці. Прыток грошай у чацвер. У суботу паклапаціся аб бяспеку сваю і блізкіх.

**(21.04. — 21.05.)** Магчымыя канфлікты і нават дракі, якія могуць закончыцца парэзамі, сінякамі і кантузіямі. Пільнуйся! Дасць аб сабе знаць даўняе мінулае. Пад пагрозай будуць адносіны з любым чалавекам. У панядзелак старайся захаваць спакой душы. У сераду не будуй вялікіх планаў, не займайся распрацоўкай новых праектаў. У чацвер выканай усё, што абяцаў.

**(22.05. — 22.06.)** Добры час для атрымання новых ведаў. Новыя сувязі з партнёрамі ў прафесіі могуць аказацца моцнымі. Ад панядзелка да чацвярга добры час для пачаткаў. Можаш закласці моцную аснову для будучых поспехаў. Шмат тваіх жаданняў здзейсніцца ўжо ў гэтым тыдні. Будзь упэўненым у тым, што робіш. У пятніцу магчымы лёгкі апёк — ад запалкі, чайніка, праса.

**(23.06. — 23.07.)** Прысвяці больш увагі і часу сваім сямейнікам. Прыхільнасць сяброў і знаёмых паможа ў рэалізацыі тваіх планаў. Твае мінулыя меркаванні стануць менш важнымі, паявяцца новыя. Найлепш удадуцца справы, звязаныя з самаадукацыяй. У чацвер твае канкурэнты могуць спрабаваць сарваць тваю здзелку.

**(24.07. — 23.08.)** Знойдзеш для сябе новыя мэты. Поспех на працы звязаны з пасрэдніцтвам, аказваннем паслуг іншым. Калі ты марыў аб хатнім звяры, цяпер яго можаш завесці. У панядзелак нічога не падымай з зямлі. У сераду трэба будзе заплаціць старыя рахункі. Сябры і знаёмыя памогуць табе ў пятніцу.

**(24.08. — 23.09.)** Чакае цябе шмат спраў і праблем, якія ў выніку прынясуць дабро. Сам усяго не зробіш, прыйдзецца папрасіць падтрымкі збоку, нават ва ўплывовых знаёмых і сваякоў. Яны памогуць ажыццявіць твае задумы. Грамадскія кантакты акажуцца каштоўнымі для будучых фінансавых аперацый. Першая палова тыдня прынясе праблемы са страваваннем, другая — час любові або яе пошукаў.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш мець цікавыя задумы наконт таго каб пабагацець, ды не бярыся рэалізаваць іх адразу. Вялікая ўвага да тваёй асобы з боку кіраўніцтва, калег і канкурэнтаў. У панядзелак будзь асцярожны з бытавой хіміяй. У аўторак не пытайся пра павышэнне. У чацвер спакойна рэалізуй фінансавыя працэдуры.

**(24.10. — 22.11.)** Чакаюць цябе прыемныя нечаканасці, прыбыткі на рабоце, у справах і бізнесе, нават калі нічога асаблівага не будзеш рабіць. Не прымай толькі без роздуму новай інфармацыі і не вырашай на гарачую галаву. У сераду — „барыш-дзень”; калі сёння прадасі штосьці з барышом (выгадай), увесь год будзеш мець прыбыткі. У чацвер вырашацца справы з грашыма.

**(23.11. — 22.12.)** Падзеі на першы пагляд не звязаныя з табою могуць прынесці ў тваё жыццё хаос. Важныя справы і рашэнні адтэрмінуй на наступны тыдзень. Не выступай публічна і нічога не заяўляй, не прыцягвай лепш да сябе ўвагі. Асабліва ў аўторак будзь нейтральным.

**(23.12. — 20.01.)** Калі займаешся бізнесам, спортам, уздымаешся па кар’ернай лесвіцы, можаш спадзявацца нейкіх падвохаў з боку канкурэнтаў. У панядзелак магчымыя вялікія грашавыя страты (пільнуйся!). Не рабі ў аўторак пластычных аперацый. У чацвер будзеш мірыць пару канфліктаў. Не паддавайся заманлівым прапановам у пятніцу.

**(21.01. — 19.02.)** Чакаюць цябе прыемныя падзеі ва ўсіх справах, прычым не мусіш асабліва старацца. Вер толькі ва ўбачанае. У панядзелак чакаюць цябе заторы ў дарозе, аб’язныя шляхі. У сераду ўмацоўвай супрацоўніцтва і свой аўтарытэт. У пятніцу ўстабілізуецца твая фінансавая сітуацыя.

**(20.02. — 21.03.)** Наступае добры час, поўны поспехаў, новых знаёмстваў, цікавых сустрэч з прыемнымі людзьмі і пазітыўных эмоцый, наведвання мерапрыемстваў і забаў. Будзь асабліва актыўным у панядзелак і аўторак. У сераду шмат праблем звязаных з працай. Пад канец тыдня дапамажы сямейнікам.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Прапускаць еўрапейскасць праз сваё

**Падчас візіту ў Мінск дырэкtаркі Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку Агнешкі Карыткоўскай-Мазур і суправаджаючага яе дырэктара дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Анатоля Вапа, апрача сустрэчы ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі (РТБД) і Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы (мы пісалі пра іх у папярэдніх нумарах «Нівы»), была таксама сустрэча з прадстаўнікамі беларускага свету альтэрнатыўнай культуры і асабліва, вядома, тэатра. У дадатак да размоў аб супрацоўніцтве з беластоцкім тэатрам, асабліва аб магчымасці рэалізацыі сумесных праектаў, сустрэча стала падставай пачуць меркаванні аб стане творчага свету Беларусі, якімі падзяліліся мінскія госці, запрошаныя дырэктаркай Карыткоўскай-Мазур.**



Марына Дашук і Яўген Карняг



Злева: Мікалай Рудкоўскі, Вольга Скварцова, Тацяна Арцімовіч, Валеры Мазынскі, Вячаслаў Іназемцаў, Артур Клінаў

У Польскі інстытут, у памяшканнях якога адбылася сустрэча, прыйшлі вядомы рэжысёр, у цяперашні час прысуджаны на творчае выганне ў Беларусі, а ў 90-х гадах мінулага стагоддзя дырэктар РТБД Валеры Мазынскі; стаўлены ў многіх еўрапейскіх краінах драматург Мікалай Рудкоўскі; харэограф і кіраўнік узніклага ў мінулым годзе тэатра танца «Д.О.С.К.І.» Вольга Скварцова; кіраўнік пластычнага тэатра „ІнЖЭСТ", ініцыятар мінскага фестывалю тэатраў пластычных форм Вячаслаў Іназемцаў; дырэктар незалежнага тэатра «Korniag Theatre» Марына Дашук і яго галоўны рэжысёр Яўген Карняг; мастак, пісьменнік і стваральнік культавага мастацкага часопіса „pARTisan" Артур Клінаў і тэатральны крытык Тацяна Арцімовіч.

Марына Дашук і Яўген Карняг згодна сказалі:

— Нашы спектаклі пачынаем ствараць ад імпульсаў, ад слова, але неабавязкова. Мы арыентуемся на працу з целам. Не маем сваёй сцэны. Выступаем гасцінна, м.інш. у РТБД. Не маем пастаяннай трупы. У нашых пастаноўках выступаюць у асноўным акцёры Купалаўскага тэатра.

Валеры Мазынскі пачаў сустрэчу з горкай заявы:

— У маладых «рабятах» яшчэ надзея, рамантыка і, вядома, канкрэтны рамантызм і, зразумела, жаданне. Са свайго досведу магу сказаць, што гэтай надзеі можа не быць дастаткова для ўсяго жыцця, бо ўжо больш чым дваццаць гадоў мы не можам жыць у Беларусі так, як мы маглі ў 1991 годзе. У той час праз мяжу крадком перавозілі мне месячнікі «Тэатр» і «Сцэна». Я балдзеў ад польскага тэатра, нават толькі ад фатаграфій там размешчаных. Па-юнацку сніў, каб убачыць ваш тэатр, не кажучы ўжо пра тое, каб нешта паказаць, паставіць. Гэта новае пакаленне тэатра, якое праравалася праз асфальт, а не, як нашае, што выйшла з вёскі. Нават інакш носіць яно шалікі. Ёсць у іх такім чынам надзея на еўрапеізацыю. Тым не менш, гэта ідзе вельмі цяжка. Вельмі. У свой час да мяне, тады ў Віцебск, прыехалі людзі з тэатра з Зялёнай Гуры, каб паказаць «Танга» Славаміра Мрожка. Акцёрам не атрымалася ігра, ігралі натуралістычна: са слязьмі, плачам на сцэне. Спектакль быў сцэнічнай смерцю. Псеўдашкола Станіслаўскага, якая жыла і жыве надалей, асабліва ў тэатры нашай правінцыі. Ад школы Станіслаўскага нават у Маскве адварочваюцца, і амерыканцы спынілі балдзець ад яго. Я спрабаваў сысці з гэтай школы, калі я выкладаў у нашай тэатральнай школе, але я быў у стане выпусціць толькі два курсы. Я хацеў, каб на курсе ішлі разам акцёры, рэжысёры і драматургі, але мне не далі. Я лічу, што мяняць у тэатральным сэнсе трэба ўсё разам. Цяжка, аднак, у нас на практыцы немагчыма.

Вольга Скварцова:

— У тэатральным беларускім свеце мы сутыкаемся з самым важным пытаннем якасці адукацыі акцёраў і больш шырока мастакоў еўрапейскага сусветнага класа. Наша мастацкая адукацыя замарожаная і бальзамаваная ды павінна быць цалкам зменена. Мы гаварылі пра гэта нядаўна ў шырокім крузе ў галерэі «Ў» і выхаду з гэтай сітуацыі мы не знайшлі. Мы прыйшлі да высновы, што неабходна арганізаваць альтэрнатыўныя базы ў Беларусі, неабходна знайсці групу настаўнікаў, якія будуць выкладаць у новай сістэме з улікам еўрапейскага вопыту, каб акцёры былі больш мабільнымі ў плане тэхнікі і маглі вольна іграць у заходнім рэпертуары, у такой стылістыцы. Усё па-ранейшаму замарожанае ў сваіх каранях і ўсё тут не так. На шчасце ёсць людзі, якія могуць дазволіць сабе па крайняй меры паставіць пытанне, ці з'яўляюцца яны прафесіяналамі з пункту гледжання міжнароднага тэатра.

Тацяна Арцімовіч:

— Ёсць спецыялісты ў сярэднім, і нават старэйшым пакаленні. Нават звязаныя з тэатральнай школай, але яны не дапускаюцца. Калі прадстаўляюць нейкія шляхі мадэрнізацыі, кажуць ім не перашкаджаць. Кожны, хто мае патэнцыйную энергію ў Беларусі, пачынае адчуваць гэтае супраціўленне і з'язджае на Захад або ў Расію.

Валеры Мазынскі:

— Калі вёў я майстар-класы ў Нямеччыне, у нейкі момант зразумеў, што ў мяне з гэтымі маладымі людзьмі ў навучальным сэнсе няма што рабіць, я проста павінен паказаць з імі спектакль, бо яны гатовыя. Тут, у школе я павінен аддаваць час на адукацыю моладзі, а там у школе ўжо ёсць гатовыя артысты. Нашыя маладыя людзі часта шукаюць мадэляў на Захадзе, ды ідуць услепую. Уся наша праблема ў тым, што ў нас няма сваіх каранёў, мы не адчуваем «свайго». Чапляемся за палякаў, немцаў, французаў. Еўрапеізм трэба прапускаць праз сябе, праз «сваё». Тады будзем цікавымі для іншых.

Артур Клінаў:

— Для мяне бліжэй літаратура чым тэатр. Але, праблемы падобныя. Беларуская літаратура ў Еўропе практычна не існуе. Для таго, каб існаваць там, павінна спачатку заіснаваць тут. А тут увесь працэс публікацыі абсурдны, не кажучы ўжо пра тое, што ў літаратуры любой маленькай краіны ёсць праблемы заіснаваць у свеце. З 10 мільёнамі патэнцыйных чытачоў (столькі людзей у Беларусі — М. Х.) працэс калялітаратурнай падтрымкі працэсу моцна адрозніваецца, чым у іншых буйных краінах. Прытым, сапраўдных патэнцыйных чытачоў на самай справе ў Беларусі, магчыма, паўмільёна. Гэтая сітуацыя не безнадзейная, таму што ёсць механізмы, якія можна запусціць, таму што здараецца так, што беларускія кнігі з'яўляюцца ў Еўропе, і я кажу не толькі пра свае. Такім механізмам інтэграцыі ў Еўропу беларускай літаратуры з'яўляецца літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца Польскага інстытута ў Мінску. У мінулым годзе конкурс быў самай важнай літаратурнай падзеяй у Беларусі. Але гэтага недастаткова. Мусіць быць цэлая сітэма падобных дзеянняў, асабліва ў дачыненні да перакладу беларускай літаратуры, у прыватнасці, звязаных з фінансавым механізмам для публікацыі.

Мікалай Рудкоўскі:

— Кожны з беларускіх драматургаў мае свае шляхі. Я пішу на заказ. Зараз самы час тэатральных анлайн-фестываляў і тут, з нашага пункту гледжання, у лідарах Расія. У гэтым выпадку, напрыклад, калі аўтар піша драму па-беларуску, дык хацеўшы існаваць за межамі Рэспублікі Беларусь, у дадзеным выпадку ў Расіі, і так павінен перакладаць сваю п'есу на рускую мову, каб мець магчымасць выстаўляць яе там і такім чынам заіснаваць у свеце. Заходнія людзі тэатра і так будуць чытаць пераклады беларускіх драматургаў, незалежна ад таго, ці яны першапачаткова былі напісаны на беларускай ці рускай мовах. У Францыі ў хуткім часе будзе ставіцца адна з маіх п'ес і рэжысёр чытаў яе якраз па-французску, і на французскай мове будзе яна ставіцца. Беларуская драматургія выклікае некаторую цікавасць на Захадзе, але большшае — руская, рускамоўная, якая заваявала ўзнагароды на міжнародных фестывалях. Я ведаю, што рэжысёры з Латвіі і Эстоніі, якія зацікаўлены ў маёй драме, чытаюць яе на рускай мове. Праблема ў тым, што беларуская мова ў свеце амаль невядомая.

Валеры Мазынскі:

— На дадзены момант беларуская драматургія на здавальняючым літаратурным і тэатральным узроўні напісаная толькі на рускай мове. Беларуская драматургія на такім узроўні зараз проста не існуе.

Тацяна Арцімовіч:

— Драматургі, таксама і ў Беларусі, вымушаныя, па той прычыне, што займаюцца гэтага роду мастацтвам, выяўляць свае адносіны да навакольнага свету. Жартам сказаўшы, калі б нехта з беларускіх драматургаў напісаў п'есу, якая адбываецца на трактарным заводзе ў Беларусі, дзе ўсе гавораць па-беларуску, гэта было б проста няпраўдай. Не існуе ў Беларусі, з пункту гледжання драматургаў, беларускага моўнага кантэксту і якраз аб гэтым беларускім кантэксце неабходна дыскутаваць з аўтарамі.

Валеры Мазынскі:

— Але ў апошні час можна заўважыць, што ў Мінску людзі ўсё часцей пачынаюць размаўляць адзін з адным на вуліцы па-беларуску. А тыя героі, беларускамоўныя, як прадстаўнікі рэчаіснасці, хоць і з цяжкасцю, але пачынаюць з'яўляцца ў драме.

Вячаслаў Іназемцаў:

— Я пачынаў творчую дзейнасць у 1980-я гады, яшчэ ў савецкі перыяд. І для мяне, з майго пункту творчага гледжання, менавіта ўключэння цела ў тэатральную арганізаваную прастору, у Беларусі да гэтага часу мала што змянілася. Ні тады, ні цяпер я ад нікога не залежаў, і ніхто мне не дапамагаў. Наша форма дзейнасці не выклікае праблем пры зносінах з кім-небудзь у свеце.

Валеры Мазынскі:

— Я канчаю ўжо сваю жыццёвую тэатральную дзейнасць, але ад дваццаць пятага года жыцця ўсё яшчэ мне мроіцца, каб у Беларусі ставілася польская драматургія. Некаторыя польскія спектаклі, выступленні, якія прайшлі па Беларусі, нічога не змянілі ў беларускім тэатральным мысленні. Ніколі не было ў Беларусі пашырэння польскай драматургіі, нават на ўзроўні чытанняў драм.

Размова ў Польскім інстытуце працягвалася тры гадзіны. Мабыць, хутка мы пачуем пра вынікі канкрэтных дамоўленасцей па супрацоўніцтве з Драматычным тэатрам у Беластоку. Між тым, 2 сакавіка на прэм'еры ў Драмтэатры імя Вянгеркі «Чарнобыльскай малітвы. Last minut» (да гэтага часу адбылося г.зв. перфарматыўнае чытанне п'есы), паводле кнігі беларускі Святланы Алексіевіч, у Беластоку будуць гасцяваць генеральны дырэктар РТБД і папулярны ў Беларусі артыст Ігар Сігаў ды мастацкі кіраўнік тэатра, вядомы рэжысёр Аляксандр Гарцуеў і Марына Дашук.

ISSN 0546-1960